НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 27 (768) 18 ліпеня 2012

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТ…

Заснаваная ў лістападз… …дноўленая … 91. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у сера…



## Агурбаш разводзіцца

Каштоўнасці ёй, кватэры — яму. Старонка 8.



## Забавы беларускіх таўстасумаў

Прысталічныя праекты мільянераў Чыжа і Тарнаўскага. Старонка 6.

# Школу Янкі Купалы зачынілі ў юбілей песняра

У Бяларучах і суседніх вёсках не знайшлося ніводнага першакласніка. Старонка 9.

## Фатограф Сурапін арыштаваны па «справе шведскіх мядзведзікаў»

Яго падазраюць у дапамозе незаконнага перасячэння мяжы.

Супрацоўнікі КДБ завіталі на кватэру студэнта БДУ Антона Сурапіна 13 ліпеня ў першай палове дня. Іх зацікавілі размешчаныя на сайце bnp.by фотаздымкі мядзведзікаў, якіх шведы скідалі 4 ліпеня над Беларуссю. Менавіта Антон першым размясціў фотадоказы існавання «шведскіх мядзведзяў» на сваім сайце і пазначыў, што здымкі яму былі дасланы чалавекам, які захацеў застацца невядомым.

«Антон аказаўся самым слабым і даступным звяном,. — тлумачыць Алена Сурапіна, мама Антона. — Ён проста апынуўся першым. І ўсе ж разумеюць, што сенсацыі — гэта яго праца, і былі сведкі гэтых мішак, і былі людзі, якія трымалі гэтых мішак у руках. Антон проста перастявіў чужыя фотаздымкі. Прашу, крычыце ўсё, што Антона затрымалі незаконна! Ён ні ў чым не вінаваты!».

Працяг на старонцы 3.

**Мядзведзікі былі ў Трабах?**

У Рэдакцыю патэлефанаваў чытач, які паведаміў, што плюшавых мядзведзікаў са шведскага самалёта знайшлі і ў Трабах (Іўеўскі раён). Цяпер нібыта гэтым займаецца КДБ.

### Гаспадарка

## Сакавіты бізнэс

Каму належаць «Сочны», Magic Summer ці «На100ящий». **Старонка 5.**



### Разгільдзяі

## У Мінску асфальт клалі проста на траву

Пракуратура прымусіла перакласці. **Старонка 7.**



### Вольны час

## Новая мода — байдаркі

Водныя падарожжы па краіне. **Старонка 15.**







# Пераможца «Еўрабачання» падтрымала Бяляцкага

Ларын сустрэлася з жонкай палітвязня. Старонка 3.

## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Над Беларуссю праляцеў незвычайны балід, узарваўся над Паазер'ем

**Яго назіралі ад Лунінца да Полацка.**



Незвычайную з'яву назіралі ноччу з 15 на 16 ліпеня жыхары Беларусі. Балід праляцеў па небе з поўдня на поўнач краіны, пакуль не ўзарваўся з моцным грукатам.

Вось што расказаў гімназіст Даніл Бука з вёскі Валодзькава Глыбоцкага раёна: «Ноччу, гадзін дванаццаць было — пачуў грукат, вокны затрэсліся, задрыжэлі, і святла шмат адразу. Думаў, можа машына дзе ўрэзалася ў дрэва. Выйшаў, паглядзеў — ціха, нікога няма».

Дзівосы ў небе бачылі і жыхары вёскі Гатаўшчына. «Я быў у дарозе, бачыў яркую ўспышку на небе, секунд пяць, ярка-ярка на небе стала, і дзесьці яно звалілася. Я еду на машыне, таму гуку не чуў, а малодшая сястра была на вуліцы і праз нейкі час пачула моцны грукат», — распавядае мясцовы жыхар Аляксандр.

Моцны грукат а палове на першую ночы чуў Часлаў Рудак, інжынер з вёскі Мнюта II: «У мяне хата затрашчала, і на кухні аж дзверы адчыніліся. Дзесьці вакол нас яно ўзарвалася».

А вось сведчанні людзей, дасланыя ў «Нашу Ніву» і на паазерскі сайт Westki.info.

Віктар: Я бачыў. Быў пад Браславам і назіраў неверагодная яркасці балід. На жаль, саму з'яву не бачыў, але бачыў свой цень: на двары было светла, быццам над самай галавой выбухнуў салют, ці нават крыху ярчэй.

Dzianis: Бачылі з сябрам яго нават у Лунінецкім раёне. Вярталіся з возера на машыне, ехалі ў паўночны бок і дзесьці апоўначы з неба паляцела долу яскравая зеленаватая фігня. Мы думалі, што нехта салют няўдала запусціў, ці штосьці такое, а тут вунь як — метэор.

З Плісы: Мы з сябрамі выйшлі на шпацыр з вёскі Пліса, рухаліся ўздоўж трасы Глыбокае—Полацк. Усё навокал хутка пасвятлела, і спачатку нам падалося, што гэта святло ад аўтамабільных фар, але потым мы заўважылі агнявы шар, падобны да сігнальнай ракеты. Праз некалькі хвілін мы пачулі моцны грукат, падобны да грымотаў падчас навальніцы.

Сведка: Я бачыў гэтую ўспышку з Верхнядзвінска (горад на Дзвіне).

Ivo_rus: Мы з жонкай былі на вакзале Полацка. Агромны шар у небе на 10 секунд — усё асвяціў.

**Сяргей Гезгала**

**А Вы бачылі гэты метэор? Калі так, дашліце фоты і відэа на NN.by.**



# Абаму прымусілі пацалавацца

Забаўны выпадак адбыўся на баскетбольным матчы ЗША – Бразілія. Апафеозам вечара стаў пацалунак прэзідэнта са сваёй жонкай пад крыкі трыбун. У амерыканцаў ёсць традыцыя, што, калі ў перапынку матча, каб пазабавіць гледачоў, камера наводзіцца на мужчыну і жанчыну, часам незнаёмых, што сядзяць поруч — яны павінны пацалавацца. Такое практыкуецца, дарэчы, і на Мінск-Арэне, падчас гульняў КХЛ. Абама глядзеў сустрэчу разам з жонкай Мішэль і дачкой Маліяй.

**Цікава ведаць**

## Блогерка: А на якой мове Латушка размаўляе ў ложку?

«Відавочна, «Нашай Нівай» кіруюць мужчыны, бо ўсё пішуць і пішуць пра чароўную спадарожніцу Латушкі, з якой ён быў заўважаны то тут, то там, — піша ў сваім фэйсбуку Аксана Спрынчан. — А мне дык цікава было б даведацца, ці размаўляе яна па-беларуску і на якой мове міністр размаўляе з ёю, у тым ліку ў ложку? А то — чароўнаянечароўная...».

Невядома, ці прачытаў гэты запіс міністр культуры. Але сам факт такой нясціплай цікаўнасці азначае, што жаночая частка беларускага насельніцтва да галоўнага культурніка краіны відавочна неабыякавая.

**СГ**



**На «Славянскім базары» міністра культуры Паўла Латушку суправаджала чароўная спадарожніца.**

**Не ўсё ў жыцці апошні раз**

# Дык падпісвайся!

**Падпіска праз Рэдакцыю**

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 15000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 6 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам даставіць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага перакazу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Адд. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

**Падпіска праз «Белпошту»**

**Падпісацца можна і ў кожным паштовым аддзяленні:**

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 15040 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 18045 руб./месяц.

**Сцісла**

**На Беларусь-2 будуць паказваць толькі Алімпіяду**

Падчас Алімпіяды на канале Беларусь-2 будуць толькі трансляцыі з Лондана, прагнозы надвор'я і латарэі. Рэшта перадач ідуць у адпачынак.

**Бізнэсовец набыў для дачкі вёску на Гродзеншчыне**

Выпускніца факультэта міжнародных адносін БДУ хоча заняцца турыстычнай дзейнасцю. У вёсцы ў Караліцкім раёне 17 хат, якія цяпер аднаўляюцца з захаваннем аўтэнтычных традыцый. Для рэканструкцыі вёскі запрошаны вядомы архітэктар з Рагачова. Для кіравання турыстычным комплексам створана асобная юрыдычная асоба.

**У Умы Турман нарадзілася дачка**



Бацькам стаў сябар Турман, фінансіст Арпад Бюсон. У Турман ужо ёсць двое дзяцей — 13-гадовая дачка Мая і 10-гадовы сын Лявон. Бацька абодвух — былы муж Турман Ітан Хоўк.

**«Мой бацька лічыў сябе крывічом–палачанінам»**

Перавыдадзена кніга выдатнага сучаснага гісторыка, беларуса з Беластока Алега Латышонка. Кніга называецца «Нацыянальнасць — Беларус». Яна расказвае пра карані нашай нацыі. Пытайцеся ў кнігароў.

**У Музей беларускай дзяржаўнасці — толькі пасля праверкі**

Каб наведаць Музей сучаснай беларускай дзяржаўнасці, патрэбная заяўка з пашпартнымі звесткамі. Дакументы праходзяць праверку ў службе бяспекі 10 дзён.

**СГ**

**Рэкамендуем**

**Дзе ў Мінску ўзяць напракат ровар**

Чытайце на nn.by.

**Самае чытанае на nn.by за 11—17 ліпеня**

1. Афіцэр міліцыі з Гродна папрасіў прытулку на Захадзе, расказвае страшныя рэчы
2. Колькі гадоў кіруе Лукашэнка: 6, 8, 30?.. Відэаапытанне на вуліцах Мінска
3. Фотафакт: Момант перасячэння мяжы шведскім самалётам
4. Топ найпрыгажэйшых навабудаў Мінска
5. Над Беларуссю праляцеў незвычайны балід, узарваўся над Паазер'ем
6. П'яны базар — фоты
7. Дзяўчынка з чарнобыльскай зоны загінула ў Італіі
8. Ідэолаг Лукашэнкі «развенчвае міфы пра мядзведжы дэсант»
9. Лукашэнкаўскі ідэолаг: «А бычка па фэйсу?»
10. Беларускі трактар на Алімпе — фотафакт

# Пераможца «Еўрабачання» падтрымала Алеся Бяляцкага

**Ларын сустрэлася з жонкай палітвязня.**

Ларын прыехала ў Беларусь, каб прыняць удзел у адкрыцці «Славянскага базару». Там былі і іншыя зоркі — Аляксандр Рыбак, «Буранаўскія бабулі».

На наступны дзень пасля выступу Ларын на тэрыторыі пасольства Швецыі ў Мінску сустрэлася з праваабаронцамі і жонкай палітвязня Алеся Бяляцкага Наталляй Пінчук.

Падчас конкурсу «Еўрабачання» ў Баку Ларын таксама сустракалася з азербайджанскай апазіцыяй, якая знаходзіцца прыкладна ў аднолькавым становішчы з беларускай. Ужо тады гэта выклікала захапленне.

Сустрэча ў Мінску доўжылася больш за дзве гадзіны. Наталля Пінчук адзначае, што Ларын прыехала падрыхтаванай да сустрэчы. «Яна шмат пыталася пра сітуацыю з правамі чалавека, са свабодай слова. Потым у нас была прыватная размова, дзе мы гаварылі пра лёс Алеся, у якім ён стане. Ларын мне падалася асобай, што жыва цікавіцца нашымі праблемамі», — адзначыла Наталля Пінчук.




SVABODA.ORG

Ларын і Наталля Пінчук.

«Я разумею, чаму Алесь вас кахае... Я вельмі спадзяюся, што ўсё наладзіцца, што яго як найхутчэй выпусцяць, зычу гэтага ад шчырага сэрца. Вельмі шкада, што такая цудоўная сям'я разлучаная. Але ваша змаганне справядлівае», — адзначыла на сустрэчы Ларын.

Яна прызналася, што пра сітуацыю ў Беларусі ёй расказалі шведскія праваабаронцы, а таксама фанаты. Дарэчы, яна растлумачыла і тое, чаму вырашыла прыехаць у Беларусь, а не адмовіцца ад выступу на афіцыйным шоў.

«У мяне тут ёсць прыхільнікі творчасці. Не прыехаць да іх было б непавагай», — адзначыла зорка.

Яна кажа, што страху перад прыездам не было. На другі дзень на сваёй старонцы ў фэйсбуку яна выклала фатаздымак у майцы з выявай Алеся Бяляцкага. Пад фотаздымкам — больш за дзве тысячы «лайкаў» (упадабанняў).

«Адназначна, такія сустрэчы карысныя. Бо зоркі даносяць праблему да сваіх прыхільнікаў. І шмат людзей можа зацікавіцца гэтым пытаннем — як дапамагчы, што зрабіць», — кажа Наталля Пінчук.

**Зміцер Панкавец**

**Ларын**

Сапраўднае імя — Ларын Зінеб Нора Тальхаўі. Шведская спявачка мараканскага паходжання. Пераможца «Еўрабачання-2012».

**Алесь Бяляцкі**

Праваабаронца. Асуджаны на 4,5 за нявыплату падаткаў з грошай, што ішлі ў дапамогу рэпрэсаваным у Беларусі. Адбывае пакаранне ў бабруйскай калоніі. Вылучаны на Нобелеўскую прэмію міру.

**Бяляцкі тэлефанаваў жонцы**

«Апошні ліст ад Алеся быў 8 ліпеня. Ён цяпер нячаста піша, бо працуе па 6 дзён у тыдзень, вялікая стома. Калі піша, то вялікія лісты. Але мала расказвае пра свой побыт, яму гэта нельга. Праўда, перад гэтым тэлефанаваў на пяць хвілін. Так усё імкліва было, што нават цяжка вылучыць галоўнае з той размовы», — адзначае жонка Алеся Наталля Пінчук.

**Адрасы палітвязняў**

**Алесь Бяляцкі**
213807, Магілёўская вобл., Бабруйск, вул. Сікорскага, 1, Папраўчая калонія №2, атрад №14.

**Каваленка Сяргей**
213030, Магілёў, Слаўгарадская шаша, 3 км, ПК №19.

**Эдуард Лобаў**
225295, Брэсцкая вобл., Івацэвічы, «Воўчыя норы», а / с 20, папраўчая калонія № 22.

**Мікола Статкевіч**
212011, Магілёў, вул. Крупскай, 99а, турма № 4.

**Зміцер Дашкевіч**
211791, Віцебская вобл., Глыбокае, вул. Савецкая, 205, папраўчая калонія № 13.

**Павал Севярынец**
225143, Брэсцкая вобл., Пружанскі р-н, Куплін, ПУАТ-7.

**Мікалай Дзядок**
213004, Магілёўская вобл., Шклоў, ПК-17.

**Аляксандр Францкевіч**
225295, Брэсцкая вобл., Івацэвічы, «Воўчыя норы», а / с 20, папраўчая калонія № 22.

**Ігар Аліневіч**
211440, Віцебская вобл., Навапалацк, вул. Тэхнічная, 8, папраўчая калонія № 10.

**Яўген Васьковіч**
212011, Магілёў, вул. Крупскай, 99а, турма № 4.

**Арцём Пракапенка**
212013, Магілёў, Слаўгарадская шаша, 183, ПК № 15.

**Павал Сырамлотаў**
213030, Магілёў, Слаўгарадская шаша, 3 км, ПК №19.

**Мікалай Аўтуховіч**
230023, Гродна, вул.Кірава, 1, турма №1.

**Аляксандр Малчанаў**
222125, Мінская вобл. Барысаўскі раён, ст. Навасады, ПК-14.

## Фатограф Сурапін арыштаваны па «справе шведскіх мядзведзікаў»

Працяг са старонкі 1.

Пасля візіту КДБ у пятніцу сябры і блізкія некалькі гадзінаў шукалі Антона: тэлефон не адказваў, дамафон у кватэры ніхто не падымаў. Увечары стала вядома, што Сурапін знаходзіцца ў СІЗА КДБ. Следчы па тэлефоне паведаміў маці, што Антон будзе затрыманы на 72 гадзіны да высвятлення абставінаў справы і дачынення да яе.

16 ліпеня трое «абяцаных» следчым сутак скончыліся, бацькі Антона ўвесь вечар вартавалі каля КДБ і спадзяваліся на лепшае, аднак іх сына так і не выпусцілі. У той самы дзень маці патэлефанаваў дзяржаўны адвакат і сказаў, што ўтрыманне пад вартай падоўжана да 10 сутак. Стала вядома, што Антона падазраюць у дапамозе незаконнаму перасячэнню мяжы, здзейсненага групай асобаў. Гэта ад 3 да 7 гадоў турмы.



**Антон Сурапін**

студэнт журфака БДУ. Сам са Слуцка. Па аповедам бацькоў, журналістыкай Антон зацікавіўся незадоўга да паступлення ў ВНУ. Калегам Антон расказваў нават, што вымушаны быў прадаць машыну, каб купіць сабе фотаапарат. З гэтага набытку і з'явілася ідэя стварэння ўласнага блога і сайта фотаздымкаў з Беларусі. Сапраўдная журналісцкая ўдача — першым апублікаваць фотаздымкі «шведскія мядзведзяў» — прынесла інтэрнэт-рэсурсу папулярнасць і наведвальнасць, аднак для самога Антона абярнулся сур'ёзнымі праблемамі з КДБ.




Тыя самыя мядзведзікі.

**Яшчэ аднаго затрымалі за «дапамогу медзведзіроўшчыкам»?**

Як паведаміла сайту charter97.org ананімная крыніца, у «амерыканцы» (СІЗА КДБ) адзінаццатыя суткі знаходзіцца Башаміраў Сяргей. Ён займаецца здачай кватэраў на суткі. І, верагодна, у яго спыніліся ў Мінску шведы.

Прычым, самі шведы неадназрова адзначалі, што не прыцягвалі ў дапамогу беларусаў падчас сваёй дзёрзкай акцыі.

Старэйшыя калегі нярэдка дзівіліся энтузіязму Антона: рызыкаваць падчас акцый і працаваць у любое надвор'е дзеля неаплочваемай работы? Антон тлумачыў, што ягоны блог пакуль заробку не прыносіць. Аднак ён ускладаў на свой інтэрнэт-рэсурс вялікія надзеі і спакойна працягваў упэўніваць калегаў, што з часам ідэя сайта «беларускіх навінаў у фотаздымках» стане вельмі запатрабавальнай і папулярнай.

Гэта не першы выпадак, калі людзей арыштоўваюць па, здавалася б, абсурдных абвінавачваннях. У 2006 арыштоўвалі жодзінскага «маладафронтаўца» Паўла Красоўскага. У 2008 пасля выбуху на дзень рэспублікі ў турме апынулася некалькі дзясяткаў актывістаў апазіцыі, але праз 10 сутак іх вызвалялі.

**Настасся Шамрэй**

# Дзяўчынка з чарнобыльскай зоны загiнула ў Iталii

**Паездка на аздараўленне скончылася трагедыяй.**

11-гадовая Ангеліна Судаленка ўпала з ровара і разбіла галаву аб каменне. Па яе выслалі верталёт «Хуткай дапамогі», але адратаваць дзіця не ўдалося.

Страшная трагедыя здарылася а 17-й гадзіне ў мінулую сераду. Дзяўчынка прыехала ў Італію з групай дзяцей Чарнобыля на аздараўленне.

Яна трапіла ў сям'ю ў правінцыю Асці, што ў П'емонце, на паўночным захадзе Італіі. Жыла яна ў даліне Уцонэ, блізка мяжы Італіі з Францыяй. Рэльеф там гарысты.

Дзеці паехалі на ravarovую экскурсію. І дзяўчынка выпадкова з'ехала з дарогі пад абрыў.

На бяду, там аказаўся камяністы адхон глыбінёй 4,5 м. Куляючыся, Гэля некалькі разоў ударылася галавой аб валуны.

Экскурсаводка кінулася на ратунак, выклікала карабінераў-ратавальнікаў. Усё марна. Дзіця памерла да прыбыцця ратавальнікаў з доктарам.

Вядзецца следства. Апыталі і экскурсаводку, і сяброў-дзяцей. Мясцовая прэса піша, што ўвагу следчых прыцягнуў той факт, што ў месцы здарэння раней на ўзбочыне дарогі стаяла агароджанне-парэнча, метры чатыры даўжынёй, але ад старасці яна павалілася.

Каб засталіся там парэнчы, мо яны ўратавалі б маладое жыццё.

**Сяргей Гезгала**

# Спецслужбы Польшчы прадухілілі продаж расейцам аналага гродзенскага «Азота»

**Расія спрабуе сарваць перавод польскай эканомікі на сланцавы газ.**

Агенцтва ўнутранай бяспекі (АУБ) Польшчы ў маі перасцерагло ўрад, што магчымая здзелка па набыцці польскага хімічнага холдынга Azoty Tarnow расейскім «Акрон» нясе пагрозу энергетычнай бяспекі краіны, паведамляюць польскія СМІ.

«Акрон» у сярэдзіне мая накіраваў польскай кампаніі прапанову аб куплі да 66% яе акцый па цане, істотна вышэйшай за рынкавую. Жадаючы не дапусціць куплі актыву ў Тарнаве «Акронам», Дзяржмаёмасць Польшчы, якая валодае 32,1% акцый прадпрыемства Azoty Tarnow і 50,7% іншага хімічнага холдынга Zaklady Azotowe Pulawy (аналагі гродзенскага «Азоту» ў Беларусі), ініцыявала зліццё двух прадпрыемстваў. У мінулыя выходныя акцыянеры Tarnow прынялі рашэнне аб дадатковай эмісіі акцый кампаніі ў мэтах кансалідацыі з Pulawy.

АУБ у запісцы, якая апынулася ў распараджэнні адной з польскіх газет, нагадвае, што група Tarnow спажывае каля 10% усяго газу, які разыходзіцца ў Польшчы. Амаль увесь аб'ём гэтага паліва Польшча атрымлівае з Расіі. Скупляючы найбуйнейшых спажыўцоў расійскага газу ў Польшчы, «Акрон» спрабуе сарваць планаваны перавод польскай эканомікі на сланцавы газ уласнай здабычы, лічаць у АУБ.

«Мы плануем ужо праз два гады здабываць сланцавы газ, з прычыны чаго на нашым рынку з'явіцца танны газ уласнага паходжання. Перш чым гэта можа здарыцца, расейцы могуць скупіць найбуйнейшых нашых спажыўцоў газу», — гаворыць запіска АББ.

На думку спецслужбы, ураду варта адкласці прыватызацыю Azoty Tarnow на некалькі гадоў, да моманту, калі група пачне атрымліваць танны звадкаваны газ з балтыйскага тэрмінала ў Свінавусці або сланцавы газ. Да таго моманту капіталізацыя холдынга павінна вырасці.

Газета адзначае, што ўрад Дональда Туска і без рады АУБ быў нясхільны дапускаць расійскія інвестыцыі ў стратэгічныя галіны эканомікі.

**СГ**

# У Літве будзе рэферэндум аб АЭС

16 ліпеня парламент Літвы прыняў рашэнне, што ў краіне адбудзецца рэферэндум адносна будаўніцтва Вісагінскай АЭС (на мяжы з Беларуссю і Латвіяй). «За» прагаласавалі — 62 дэпутаты, «супраць» — 39. Яшчэ 18 устрымаліся.

Прэм'ер Кубіліюс лічыць, што рэферэндум было б разумна праводзіць праз два гады, пакольки тады людзі даведаліся б больш тэхнічных дэталяў праекта, такую папраўку падтрымліваў і кіраўнік Руху лібералаў Элігіюс Масюліс.

Праект новай АЭС у Вісагінасе будзе каштаваць 17 мільярдаў літаў (6 мільярдаў даляраў). ВАЭС плануюць запусціць у 2020-2022.

Згодна з пагадненнямі, Літве будуць належаць 385 акцый новай АЭС, стратэгічнаму інвестару 20%, латвійскай кампаніі Latvenergo — 20%, эстонскай Eesti Energia — 22%.

У Беларусі рэферэндум адносна будаўніцтва Астравецкай АЭС праводзіць не будуць, нават магчымасць такую не абмяркоўвалі.

**ЗП**

# Ярмошына ў Вене купіла Dolce&Gabbana

**Старшыня ЦВК расказала пра сваю паездку.**

**— Дзе візу атрымлівалі?**

— Усё афармляла МЗС, я нават не ведаю. Здала пашпарт і фотаздымкі ў Міністэрства замежных спраў, а як там далей было — не ў курсе. Але ў Маскве ставілі — гэта дакладна.

**— Значыць, самі вы па візу не ездзілі?**

— Што вы! Гэта занадта вялікі гонар! Уявіце сабе: чыноўнік майго ўзроўню прыязджае ў Маскву і стаіць у чарзе па візу!

Вена старшыні Цэнтрвыбаркама вельмі спадабалася.

— У мяне была магчымасць яе добра патаптаць ножкамі. Жылі мы ў цэнтры, і была магчымасць шмат пахадзіць, што мы і рабілі штовечар. Было ўсё тое, што я люблю: гуляць, сядзець у вулічных кавярнях, піць каву, глядзець на жыццё.

**— Не танная ў Вене кава…**

— Філіжанка кавы — 2 еўра, камандзіровачныя — 43. Уклалася! Мы там не шыкавалі. А ў першы дзень мяне наогул Чураў карміў, як і ўсіх старшыняў ЦВК краін СНД, шыкоўным ланчам. Так што — усё нармальна!

**— Спадзеецеся, што Вена — толькі пачатак? Што дзверы ў Еўропу адчыняцца?**

— Я была б шчаслівая! Больш за тое, мяне падтрымліваюць мае калегі. Той жа малдаўскі калега сказаў, што гэта контрпрадуктыўна, нельга ізаляваць людзей. Але мы ж разумеем, што гэта рашэнне палітычнае, у спісе шмат службовых персон. Гэта неабходна вырашаць у прынцыпе. Было б нармальна і добра.

**— У Duty Free аэрапорта заходзілі? Што набылі?**

— Абавязкова! Гэта святое! Набыла парфуму, якая мне падабаецца. Называецца яна «Блю лайт» ад «Дольчэ і Габана».

**Паводле Еўрарадыё**

# Каго вазьмуць у міліцыянеры?

**Каб паступіць у Акадэмію МУС, трэба набраць 139 балаў на тэставанні.**

У ВНУ першага патоку — хутка залічэнне. Акадэмія Міністэрства ўнутраных спраў апублікавала папярэднія прахадныя балы для паступлення на дзённую форму навучання. Ці сталі абітурыенты міліцэйскага ВНУ больш падрыхтаванымі ў параўнанні з мінулым годам?

На факультэце міліцыі (спецыяльнасць «Правазнаўства») папярэдні прахадны бал — 164 (летась быў 156). На крымінальна-выканаўчым факультэце — усяго 139 (157 у 2011-м). На следча-экспертны факультэт («Правазнаўства») залічаць абітурыентаў, якія набралі 147 бал (170 летась). На гэтым жа факультэце (спецыяльнасць «Судовая экспертыза») папярэдні прахадны бал склаў 222 (у мінулым годзе — 180).

Звесткі пакуль папярэднія, але і яны дазваляюць зрабіць выснову: сітуацыя не змянілася. Гэта не супервысокія, але і не нізкія балы.

**Паводле Onliner.by**

**Фотафакт**



Іван Амельчанка, вядомы па перформансе пратэсту супраць навязлівага фільмавання ўдзельнікаў акцый пратэсту «Му сор ок», ідзе ў дэпутаты. Ён абвясціў пра намер удзельнічаць у парламенцкіх выбарах. Няма сумневу, што кампанія Амельчанкіператворыцца ў жорсткі цэб. На наступны дзень пасля прэзентацыі Іван трапіў на суткі. Перад прыездам Мядзведзева яго арыштавалі на 12 начаў.

# Сакавіты бізнэс

«Сочны», Magic Summer ці «На100ящий» — чым **наталяюць смагу** беларусы?



Хлопчык Улад двойчы прызнаваўся самым паспяховым рэкламным брэндам краіны.




Яшчэ пару гадоў таму на прылаўках беларускіх крамаў стаялі пераважна замежныя сокі, перадусім расійскія і ўкраінскія. У 2008 айчынныя мелі толькі 30% рынку.

Рэвалюцыю зрабіла дзяржаўная праграма імпартазамяшчэння. Адміністратыўныя метады (напрыклад, мыта на ўвоз сокавага канцэнтрату ў 2009 стала нулявой) разам з рынкавымі крокамі (згода на прыход замежных інвестараў) стымулявалі развіццё вытворчасці ў Беларусі.

Для людзей змянілася мала што. Фактычна яны спажывалі ўсё той самы канцэнтрат — найчасцей завезены з Ізраіля, — які цяпер, праўда, разбаўляўся вадой на тэрыторыі нашай краіны. Выключэнне складаюць хіба што яблычны, таматны, слівавы і бярозавы сокі, сыравіна для якіх ёсць і ў Беларусі.

У выніку за студзень—май 2012 года доля беларускіх сокаў і нектараў у продажы дасягнула 80,1%. Растуць і аб'ёмы спажывання. За год кожны беларус у сярэднім выпіваў па 10 літраў соку.

### «Старая крэпасць» (брэнды «Сочны» і «Exotic»)

Найбуйнейшым гульцом на рынку з'яўляецца бабруйская «Старая крэпасць». Яе ўласнік — інвестыцыйная кампанія Detroit Investments. Праўда, амерыканская яна толькі па месцы штабкватэры. Яе ўласнікі — расійскія мільянеры Аляксандр Ліўшыц і Яўген Кашпер, якія ў сярэдзіне 1990-х стварылі гэтую кампанію для інвестыцый у піўны бізнэс.



Сяргей Левін стварыў «Старую крэпасць».



Іван Маісееў («Фірма ABC»).

З піва Detroit Investments пачала працу і ў Беларусі, калі на яе грошы ў Бабруйску ў 2004 годзе была запушчана вытворчасць піва «Сябар». Ля вытокаў вытворчасці стаяў бізнэсмен Сяргей Левін — спецыяліст па раскрутцы і далейшым продажы кампаній. Усяго за год працы «Сябра» марка «Баброў» заняла другое месца ў краіне па продажах. У 2007 бабруйскую півоварню купіў галандскі «Хайнэкен», а Левін, Ліўшыц і Кашпер заняліся ў гэтым самым горадзе сокамі, уклаўшы $20 мільёнаў. Яшчэ $40 мільёнаў дала Міжнародная фінансавая карпарацыя.

Утвораная імі «Старая крэпасць» выходзіла на рынак з напалеонаўскімі планамі — выпускаць 70 мільёнаў літраў соку за год. Поспех быў дасягнуты хутка. Вытворчасць «Сочнага» пачалася вясной 2008, і ўжо да канца года ён стаў самай папулярнай сокавай маркай у краіне. Спадабалася беларускам і рэклама кампаніі — дасціпны хлопчык Улад са шклянкай «Сочнага» ў руках два гады запар прызнаваўся самым папулярным брэнд-вобразам.

А Сяргей Левін у канцы 2011 пакінуў «Старую крэпасць», якая кантралявала ўжо больш за 30% рынку, каб сканцэнтравацца на наступным праекце — вытворчасці пральнага парашку «Мара».

### «Кока-Кола» (Magic Summer, Rio, Joy; расійскія Rich, «Добры», «Мая сям'я», «Да!» )

Карпарацыя «Кола-Кола» трымае другое месца на рынку сокаў, займаючы каля 20%. «Наша Ніва» расказвала пра кампанію ў папярэдніх нумары газеты, адзначыўшы паспяховасць яе мінеральнай вады «БанАква». Нагадаем, што беларуская «Кока-Кола» ўваходзіць у холдынг Coca-Cola Hellenic, каля чвэрці акцый якога належыць амерыканскаму офісу, а яшчэ столькі ж — грэчаскаму інвестару.

«Кока-Кола» летась шчыльна занялася беларускім рынкам сокаў, калі за $5 мільёнаў набыла смалявіцкую кампанію «Вланпак» (брэнды Magic Summer, Rio і Joy). Аднак і раней у нашай краіне актыўна прадаваліся сокі, якія выпускаюцца расійскімі кампаніямі, скупленымі «Кока-Колай» — «Добры», «Мая сям'я» ды іншыя.

### «Фірма ABC» (ABC, Florida)

53-гадовы ўраджэнец Пскоўскай вобласці Іван Маісееў — адзін з самых багатых жыхароў Гродна і ўласнік «Фірмы ABC». Ягоная кампанія існуе з 1995, выраблае маянэзы, кетчупы і разнастайную кансерваваную прадукцыю, у тым ліку і сокі.

З дапамогай «Фірмы ABC» прыйсці ў Беларусь спрабавала амерыканская карпарацыя PepsiCo. Партнёры наладзілі ў Гродне ліцэнзійную вытворчасць соку «Прывет», аднак праз год супрацоўніцтва было згорнута, бо PepsiCo накіравала ўсе высілкі на куплю вялікай расійскай кампаніі «Вім-більдан». Маісееў, у сваю чаргу, працягнуў выпускаць сок ABC, а нядаўна стварыў яшчэ адзін брэнд — Florida.

**За год кожны беларус выпівае 10 літраў соку**

Гандлёвы дом «Нёман» у цэнтры Гродна — яшчэ адзін актыў расійскага бізнэсоўца.

### «Савушкаў прадукт» («На100ящий», «Монцік»).

Каля 5% на рынку сокаў мае і брэсцкі мільянер Аляксандр Машэнскі. Сокі — дадатковы профіль дзейнасці бізнэсоўца, уласніка рыбнага «Санта-Брэмара», малочнага «Савушкавага прадукту», сеткі крамаў «Санта» ды іншых прадпрыемстваў.

Лічба «100» у назве ягонага брэнда «На100ящий» не павінна ўводзіць у зман. Далёка не кожны з напояў мае 100% долю пладовай часткі.

### «Дзяржаўныя» сокі

Нарэшце, некаторыя прадпрыемствы застаюцца пад кантролем Белдзяржхарчпрама ці абласных арганізацый. Напрыклад, на кансервавым заводзе ў Клецку выпускаюцца часам выдатныя сокі «Непаседа», «Наш», «Leto», у Барысаве — «Асалода». У гэты пералік можна дадаць і «Юнік», які выпускаецца мінскім «Гармалзаводам №2». Гэтыя брэнды займаюць да 1-2% рынку, але ўсё адно могуць быць цікавыя для інвестара.

**Ягор Марціновіч**

#### Пепсі ў Беларусі

Амерыканская карпарацыя PepsiCo, якая валодае заводамі ў Расіі і ва Украіне, прадае на тэрыторыі Беларусі прадукцыю сокавых брэндаў «Я», «Тонус», «Фруктовы сад», «Любімы», «Сандора», «Садочак». Досвед працы з гродзенскай «Фірмай ABC» аказаўся няўдалым.

#### Сок ці нектар?

У нектарах мінімальная маса пладовай часткі складае ад 25% (бананавы, манга) да 50% (яблычны, апельсінавы, персікавы, ананасавы і іншыя). У соках з цукрам — як мінімум 85%. У натуральных соках пладовая частка складае 100%.

## «Еўраопт» выпусціў выгадныя аблігацыі

Банкі тым часам змяншаюць **прыбытковасць укладаў**.

З 18 ліпеня Нацбанк зменшыў стаўку рэфінансавання яшчэ на 1%, да 31% гадавых. Нагадаем, у пачатку года яна складала 45%. У сувязі з гэтым банкі зніжаюць працэнты па ўкладах. Самыя выгадныя прапановы ў рублях пакуль што складаюць 34-36%, аднак для гэтага трэба класці грошы на вялікі тэрмін. Яшчэ год таму можна было пакласці грошы пад 55-60%.

Што да валютных дэпазітаў, найбольшая стаўка складае 7,5-7,8%. Выгадная выглядае прапанова «Беларусбанка» — аблігацыі ў далярах і еўра пад 8% гадавых. Грошы будуць вернутыя ў студзені 2014 года.

Тым часам на рынак аблігацый з нечаканай прапановай выйшла кампанія «Еўрагандаль» (крамы «Еўраопт»), якая нядаўна купіла Міжнародны рэзервовы банк. Тэрмін звароту аблігацый складае 3 альбо 6 месяцаў, а прыбытковасць — 43 і 47% адпаведна. Кошт — 3 мільёны рублёў. Аблігацыі можна набыць у Мінску (у гіпермаркеце за МКАД), Гродне і Брэсце.

**ЯМ**

## Арэнда нерухомасці ў Мінску, 2012 у параўнанні з 2011, цана ў далярах

| | Ліпень 2011 | Ліпень 2012 |
|---|---|---|
| Аднапакаёвыя | 150 | 200 |
| Двухпакаёвыя | 250 | 250 |
| Трохпакаёвыя | 300 | 325 |

## Сцісла

#### Беларусы сталі скупляць валюту

За чэрвень насельніцтва набыло $661 мільён, а прадало толькі $551 млн. Упершыню з пачатку года беларусы набылі больш валюты, чым здалі ў абменнікі. А вось прадпрыемствы па-ранейшаму прадаюць больш валюты, чым скупляюць.

#### На 10% падаражэў хлеб

Гаворка ідзе як пра чорны хлеб, так і пра белы.

#### «Карзінкі» сталі «Роднай старонкай»

Кампанія НТС бізнэсменаў Ігара Чарняўскага і Мікалая Лагуна вырашыла сканцэнтравацца на развіцці рознічнай сеткі пад назвай «Родная старонка» і адмовіцца ад брэнда «Карзінка». «Карзінкамі» называліся 16 крамаў, 7 з іх былі ў Гомелі.

**ЯМ**

# Жыллё не для ўсіх

Пад Мінскам **мільянеры Чыж і Тарнаўскі** запланавалі новыя раёны на 200 тысяч чалавек.

Прастора на ўсход ад Мінска доўгі час заставалася пустой плямай на мапе. Пакуль усё астатняе заМКАДдзе забудоўвалася катэджнымі пасёлкамі ці сталічнымі мікрараёнамі, тут стаяла глыбокая цішыня. Два заказнікі, стары аэрапорт Ліпкі, танкавы палігон ды хаатычна раскіданыя жыллёвыя кааператывы — вось і ўсё цяперашняе багацце гэтай часткі прысталічча.

Аднак ласы кавалак зямлі не мог доўга заставацца пустым. І вось некалькімі ўказамі яго элегантна падзялілі на трох інвестараў, без аўкцыёнаў і іншых фармальнасцей. Права пабудаваць раёны «Грынвіч», «Нотынгем» і «Зялёны Бор» атрымалі невыпадковыя людзі. Хто яны?




« Ахоўнікі рагочуць: паказуха, а не поле

Так пакуль выглядае першы беларускі гольф-клуб.

## Пасёлак арыстакратаў

Цьмяная гісторыя будаўніцтва гольф-клуба пачалася ў 2007. Тады Аляксандр Лукашэнка выдаў указ, які гарантаваў сумеснаму расійска-беларускаму ТАА «Гольф-клуб» разнастайныя льготы. Кампанія атрымлівала зямельныя ўчасткі без аўкцыёну, магла абіраць пастаўшчыкоў і падрадчыкаў без правядзення таргоў, праводзіць будаўніцтва па нарматывах Расіі і ЕС і гэтак далей. Дарэчы, яшчэ два пункты ўказа былі схаваныя грыфам «для службовага карыстання». Кошт будаўніцтва ацэньваўся ў $125 мільёнаў.

Праект ствараўся англійскімі архітэктарамі, найлепшымі спецыялістамі ў сферы гольф-будаўніцтва. Дарэчы, у 2007 беларусы ездзілі на экскурсію ў гольф-клуб у падмаскоўным Нахабіне. Адметна, што гэты элітны клуб належыць Міні-стэрству замежных спраў Расіі.

Гольф-клуб на доўгі час знік з навінных стужак, пакуль у канцы 2011 не было ўрачыста аб'яўлена — першае маленькае поле гатовае для гульняў. Спецыялісты тады пасмяяліся: хто адкрывае поле позняй восенню? А ў маі 2012 гольф-клуб трапіў у зводкі здарэнняў — на месцы будаўніцтва знайшлі баявую міну часоў Вялікай Айчыннай вайны.



«Нотынгем».



«Грынвіч».



На выдзеленай плошчы пабудуюць і «Зялёны бор», і «Грынвіч», і «Нотынгем».

Тым часам забудоўшчык вырашыў назваць свой раён «Грынвіч» — як англійскі горад. У ім будзе 66 катэджаў, гатэль, рэстаран, акадэмія гольфа і некалькі крамаў.

Карэспандэнт «НН» дабраўся да месца будаўніцтва гольф-клуба, каб паглядзець на свае вочы, як вядуцца працы. Шлагбаўм, металічныя вароты, некалькі пастоў аховы з сабакамі — аказваецца, вось так сцерагуць паўпустую пляцоўку. На пытанне, ці прымае гольф-поле гульцоў, ахоўнікі доўга рагочуць і апісваюць сітуацыю нецэнзурна: «Ф...ня! Паказуха, а не поле!». А вось сярод будучых уласнікаў катэджаў яны ўжо нібыта бачылі вядомых людзей.

У офісе «Гольф-клуба» запэўніваюць — продаж участкаў ідзе актыўна. Ужо знайшлі сваіх гаспадароў 18 з 40 катэджаў. Праўда, ніводзін дом яшчэ не пабудаваны. У адрозненне ад суседняга «Нотынгема», у «Грынвічы» будуць толькі катэджы коштам ад $250 тысяч. Варта ўлічваць, што кліент аддасць грошы непасрэдна за дом, а выкупляць зямлю па кадастравым кошце давядзецца асобна.

## Англійскі раён пад еўрапейскімі санкцыямі

Яшчэ адзін праект з англійскай назвай, «Нотынгем», з'явіўся ў 2008, пасля праведзенага падчас лібералізацыі Беларускага інвестыцыйнага форума ў Лондане. Нотынгем — англійскі пабрацім Мінска. Аб'ём інвестыцый ацэньваўся ў гіганцкія $750-800 мільёнаў.

За гэты кошт на тэрыторыі 290 гектараў мусіла паўстаць 850 тысяч квадратных метраў жылля для 21 тысячы чалавек. Згодна з праектам, вышыня шматкватэрных дамоў не перавышае пяць паверхаў. Для аматараў індывідуальнага жылля было запланавана 150 катэджаў. Даволі сімпатычны архітэктурны праект быў распрацаваны «Белархпраектам» пад кіраўніцтвам Аляксандра Канаваленкі.

Права будаўніцтва атрымала кампанія «ЮнівестБудІнвест», падраздзяленне кампаніі «Юнівест-М» расійскага мільянера Анатоля Тарнаўскага. Ягоную дзейнасць у Беларусі можна апісаць некалькімі фактамі: займаўся продажам нафтапрадуктаў, спансаваў Прэзідэнцкі спартыўны клуб Дзмітрыя Лукашэнкі, у кампаніі працавала Дзмітрыева жонка Ганна. У выніку трапіў пад санкцыі Еўрасаюза.

Ці то менавіта праз санкцыі, ці то праз адсутнасць свабодных грошай (а «ЮнівестБудІнвест» працягвае будаваць комплекс «Каскад» у цэнтры Мінска), работы рухаюцца надзвычай марудна. Праект пачаў рэалізоўвацца яшчэ ў 2008, але праз чатыры гады ідуць толькі яшчэ «праектныя працы па будаўніцтве інжынерных камунікацый».

## Другі «Зялёны Бор»

Не мог застацца без свайго пасёлка і гаспадар «Трайпла» Юрый Чыж. Яму выдзелілі месца каля пасёлка «Калодзішчы-2» і даручылі пабудаваць фактычна новы горад на 160 тысяч жыхароў і 60 тысяч працоўных месцаў. Мільянер аказаўся адзіным, хто сутыкнуўся з пратэстамі мясцовых жыхароў. Ім катэгарычна не спадабалася ідэя чыноўнікаў. Тым больш што для яе рэалізацыі давядзецца парушыць шэраг законаў і нормаў. Напрыклад, пракласці чыгунку праз заказнік «Сціклева», высекчы лес для будаўніцтва ТЭЦ. Апроч таго, хуткасная магістраль, якая звяжа сталіцу, тры элітныя раёны і аэрапорт «Мінск-2», пройдзе па гаражным кааператыве, таму каля 800 гаражоў давядзецца пусціць пад знос. Людзі сабралі 1500 подпісаў і чакаюць рэакцыі ад чыноўнікаў.

Праект быў прэзентаваны зусім нядаўна, таму казаць пра кошт нерухомасці ў раёне Юрыя Чыжа пакуль што яшчэ рана.

Назва «Зялёны Бор» ужо прадстаўлена на мапе Мінска. Аднайменны экалагічны пасёлак пабудавала кампанія «А-100». Яе кіраўнік, бізнэсмен Аляксандр Цэнтар, спрабаваў адстаяць найменне, якое ўжо стала брэндам, і нават запатэнтаваць яго. Аднак ягоны голас так і не быў пачуты.

**Ягор Марціновіч**

# У Мінску асфальт клалі проста на траву

**Пракуратура прымусіла перакласці.**

На вуліцы Скрыганава паміж дамамі 11 і 13 рабочыя паклалі асфальтавую дарожку проста на траву. Відавочцы сцвярджаюць, што рабочыя ўправіліся за некалькі гадзін. Сталіцу рыхтавалі да 3 ліпеня. Фотаздымкі наватарскага спосабу кладкі асфальту трапілі ў інтэрнэт і выклікалі такі розгалас, што ў справу вымушана была ўмяшацца пракуратура.

«Заўважце, узровень арганізацыі тэхналагічнага працэсу ў некаторых выпадках дайшоў да таго, што асфальт укладваюць на газон. З гэтым трэба змагацца, гэтую дурноту трэба выпальваць», — цытуе агенцтва БелТА начальніка ўпраўлення па наглядзе за выкананнем заканадаўства і законнасцю прававых актаў Генпракуратуры Паўла Радзівонава.

Пракуратура зрабіла прадпісанне ЖЭСу №17, які абслугоўвае мясцовую тэрыторыю, знішчыць дарожку і пакласці яе па ўсіх правілах. Больш за тое, гэтыя работы арганізацыя мусіць зрабіць за ўласны кошт.

У ЖЭСе сцвярджаюць, што праклалі дарожку паміж дамамі папрасілі самі жыхары — каб пад вокнамі менш хадзілі чужыя.


ONLINER.BY

**У ГДР рабілі інакш**

На Захадзе дарожкі робяць інакш. Заходнюю тэхналогію ў часы сацыялізму перанялі і ў ГДР. Там чакаюць, пакуль людзі самі пратопчуць паміж дамамі сцежкі, і тады ўжо па тых папулярных маршрутах кладуць асфальт. Іначай людзі ўсё адно самі будуць выбіраць простую дарогу.

**Як кладуцца асфальтаваныя дарожкі**

На пешаходныя дарожкі вагавая нагрузка невысокая, таму тут дастаткова па адным пласту друзу і асфальту. Асфальт павінен ляжаць на адным узроўні з паверхняй зямлі. Таму на месцы дарожкі выбіраецца грунт на глыбіню пластоў друзу і асфальту. Грунт у траншэі трамбуецца, туды засыпаецца друз з пяском, і тады толькі кладзецца асфальт.


СЯМЁН ПЕЧАНКО

Па стане на 17 ліпеня, на Скрыганава завіхаліся рабочыя. На месцы дарожкі была пракапаная траншэя ў калена глыбінёй. Побач ляжалі кучы пяску і друзу, а таксама штабелі бардзюрнай пліткі.

Знаёмства з дварамі на вуліцы Скрыганава і суседняй Бірузова выявіла, што пакладзены па траве асфальт тут не адзіная праблема. Мясцовым жыхарам відавочна не хапае месца для паркоўкі, таму многія аўто стаяць проста на траве. Асфальтаваныя дарогі ў дварах у дзірынах. А яшчэ рамонт — шэраг дамоў стаіць у рыштаваннях.

Мясцовыя кажуць, што рамонт патрэбны, але цягнецца ён занадта доўга. Даходзіць да спрэчак з рабочымі.

**Сямён Печанко**

# У Расіі кроў будуць здаваць, а не прадаваць

**Новы закон дазваляе выдаваць толькі кампенсацыю прадуктамі.**

Дзяржаўная Дума Расіі ўхваліла базавы закон «Аб донарстве крыві і яе кампанентаў», адным з асноўных навaўвядзенняў якога стала адмена грашовай кампенсацыі за здачу крыві. Аднаўлены закон пачне дзейнічаць налета.

Насамрэч кроў у Расіі, згодна з заканадаўствам, не «прадаюць» і зараз. Тая сума, што выдаецца кожнаму донару, фармальна з'яўляецца не платай за набыццё фізіялагічнай вадкасці, а выдаткам на харчаванне для аднаўлення арганізма пасля працэдуры забору крыві. Але папраўкі, прынятыя сёлета, пазбаўляюць медыцынскія ўстановы права выдаваць грошы: з новага года донар зможа атрымаць толькі гарачы абед ці прадуктовы набор. Тып харчовай кампенсацыі і яе памер будуць вызначацца кіраўніцтвам кожнага рэгіёна асобна.

Медыцынскае кіраўніцтва Расіі адзначае, што такое рашэнне чыноўнікаў можа прывесці да страты каля 20% незаўсёдных донараў, якія кіруюцца эканамічным, а не этычным бокам пытання. Адначасова з гэтым, расійскія донары самі падтрымлівалі падобнае рашэнне, таму што лічаць донарства дабрачыннасцю, а не спосабам зарobку.

Трэба заўважыць, што, прыняўшы дадзеныя папраўкі, Расія ўвойдзе ў кола многіх дзяржаў свету, дзе кроў менавіта ахвяруюць. У Вялікабрытаніі заканадаўства забараняе продаж крыві, таму донарства тут з'яўляецца насамрэч дабрачынным актам і не прыносіць донару ні пені. У ЗША чалавеку могуць заплаціць за здачу плазмы крыві (і, часам, даволі значную суму), але кроў усе здаюць абсалютна бясплатна.

У той жа час пытанне донарства крыві застаецца вострым ва ўсім свеце, і для прыцягнення ўсё новых і новых рэсурсаў часам выкарыстоўваюцца даволі крэатыўныя ідэі. Так, некалькі тыдняў таму ўладальнікі пляжаў Ліда-дзі-Камаёрэ (Італія) далучыліся да кампаніі «Дзень на моры для донараў». У межах акцыі донары маглі атрымаць пляжны парасон за здачу крыві ў адной з тасканскіх бальніц.

А што ў нас? Беларускія ўлады пакуль што плацяць донарам. Памер грашовай кампенсацыі значна вырас, калі летась яго адвязалі ад «мінімалкі» і звязалі з пражытачным мінімумам.

**Кірыла Хілько**

Як паведамілі ў цэнтры трансфузіялогіі і біятэхналогій, за кроў донар атрымае 334 000 рублёў, а за плазму 468 000. Атрымаць больш інфармацыі пра магчымасці стаць донарам можна ў РНПЦ трансфузіялогіі і біятэхналогій па тэлефоне (17) 289-86-43.



# У Мінску прапала 12-гадовая дзяўчынка

**Выйшла з дому ў пасёлку Бараўляны і не вярнулася.**

Кацярына Равяка 15 ліпеня, у панядзелак а 8:00 — 10:00 раніцы выйшла з дома ў пасёлку Лясны (Бараўляны), і да аўторка не вярнулася.

Прыкметы: на выгляд 12-13 гадоў, валасы русыя, вочы карыя, была ў ружовых басаножках, карычневай кароткай спадніцы, карычневым балеро з доўгім рукавом, у чырвонай майцы з выявай дзяўчынкі, у яе была залацістая маленькая сумачка цераз плячо і, магчыма, з сабой маленькі аранжавы парасон.

«Каценька, калі ты ўбачыш гэта паведамленне, ведай, што мы цябе вельмі моцна любім і чакаем тваёго вяртання!» — пішуць у сацыяльных сетках яе знаёмыя.

Калі хто мае якую інфармацыю, тэлефануйце на МТС 753 43 56, хатні — (017) 268-34-30.



# Пажар у гістарычным цэнтры Гродна

**Гарэў будынак на вуліцы Калючынскай.**

13 ліпеня ўвечары ў цэнтры Гродна на вуліцы Калючынскай гарэў будынак другой паловы XIX ст. Ён стаіць побач з домам купца Мураўёва. Пра здарэнне «НН» паведаміў відавочца. Па яго словах, спачатку з-пад страхі дома паваліў густы дым. Яго было відаць з вуліцы Маладзёжнай, што ў некалькіх кварталах ад Савецкай плошчы. Ад агню пачаў лопацца шыфер, дарогу ў гэтым месцы перакрылі. На пажар з'ехалася каля дзясятка пажарных машын. Паводле папярэдняй версіі МНС, гэта быў падпал.

Дом на Калючынскай быў збудаваны ў 1855. Злая іронія лёсу — гэта адзін з першых дамоў у гэтым раёне горада, збудаваных пасля пажару. Некалькі гадоў таму гарадскія ўлады планавалі знесці будынак і на яго месцы зрабіць аўтастаянку.

**СП**


ПАВЕЛ ПЕЧАНКО

# Ялінскай — упрыгожванні, Агурбашу — нерухомасць

Сталі вядомыя **падрабязнасці разводу** поп-дзівы.

Пасля разводу ўся маёмасць дастанецца мужу зоркі — уласніку і заснавальніку кампаніі-вытворцы мясных вырабаў і далікатэсаў «Мартадэль» Мікалаю Агурбашу. З Лікай (Анжалікай) Ялінскай яны пражылі 11 гадоў.

Уся нерухомасць: два дамы у Каралёве і Аляксандраве, а таксама кватэра ў Маскве — будзе ў Мікалая Агурбаша.

Спявачка да гэтага часу спадзяецца, што муж не пакіне яе і дзіця без даху над галавой.

Дарэчы, ёсць у дамове і станоўчыя для спявачкі моманты. Ліцы застануцца ювелірныя ўпрыгожванні — пункт 2.4 абвяшчае, што ўпрыгожванні ў выпадку разводу перайдуць ва ўласнасць таго, хто іх насіў.

Яшчэ адной важнай асаблівасцю кантракта з'яўляецца тое, што ў ім няма ніводнай пазіцыі, дзе агаворваліся б агульныя дзеці мужа і жонкі. Таму вырашаць, з кім застанецца дзіця, муж і жонка будуць, хутчэй за ўсё, у судовым парадку.

**Сямён Цыбульскі**






**Фотафакт**

**Давялося трапіць у Нямеччыну. Вось у адной краме прадаваліся лісічкі з Беларусі. Кошт — 4 еўра за 400 грамаў. У Беларусі грамадзяне збіраюць гэтыя грыбы і збываюць за 20-25 тысяч за кілаграм.**

**Гарадзенскі**

## У Мінску з'явіцца вуліца Герояў Сталінграда і вуліца Праграмістаў

Назвы атрымалі дзесяць новых вуліц сталіцы.

Вуліца Герояў Сталінграда будзе знаходзіцца ў мікрараёне «Уручча». Сёлета адзначаецца 70-годдзе Сталінградскай бітвы.

Таксама ў сталіцы будуць новыя вуліцы: Браслаўская, Княгінінская, Камайская, Ільянская, Курсанта Гвішыяні (у 1999 ён патушыў каля станцыі Драгічын палаючы лакаматыў пасажырскага цягніка і загінуў), Праграмістаў (праезд паміж вуліцамі Францыска Скарыны і Акадэміка Купрэвіча), Акадэміка Карскага, кампазітара Юрыя Семянякі.

У Мінгарсавеце адзначаюць, што пры выбары назваў вуліц «улічвалася меркаванне мінчукоў», а таксама «прапановы грамадскіх арганізацый».

**ЛМ**

## Баскетбалісткі выйшлі на Еўра!

У вырашальнай гульні яны **перамаглі Украіну**.

У футболе мы можам толькі марыць пра тое, каб трапіць на сур'ёзнае спаборніцтва, а вось у баскетболе нашы дзяўчаты гэтага дамагаюцца пастаянна.

Пуцёўка была заваяваная ў жорсткай барацьбе з Венгрыяй, Ізраілем, Украінай і Партугаліяй. Нашым даводзілася доўгі час праводзіць у аэрапортах: то адкладалі рэйсы, то былі доўгімі стыкоўкі. З Партугаліі ляцелі амаль суткі.

Не дзіва, што такое цяжка было вытрымаць. Многія дзяўчаты атрымалі траўмы. Таму лідарам, як Насці Верамеенцы, даводзілася знаходзіцца на пляцоўцы па 35 хвілін з 40. На шчасце, дзяўчаты здолелі з гонарам выйсці з гэтай сітуацыі.

Еўра адбудзецца налета ў Францыі.

**Зміцер Панкавец**


**Пераможцы абліваліся шампанскім.**

GOALS.BY



**Камертон Сяргея Ваганава**

## Ехаў конік, альбо Умоўная Беларусь

Бабка Кастуся, мая вясковая сяброўка з настаўніцкай маладосці, не аднойчы, калі падап'е прыхаванай яшчэ за польскім часам «Выбаровай», распачынала спяваць жудасную гісторыю: «Ехаў конік да вады — залатыя павады. Конік не напіўся, мальчык утапіўся. Ідзе пані ратаваць — нідзе сына не відаць. Ідзе пан за вадой — бачыць сына пад вадой: толькі ножкі тырчаць, толькі вочкі блішчаць...». «Не плач, Сярожа, — супакойвала бабка Кастуся пасля спеву, размазваючы па шчацэ ўласную слязу. — Усё яшчэ будзе...».

Бабка Кастуся з яе «мальчыкам» і аптымістычнай абяцанкай на будучыню ўзгадалася, калі прачытаў артыкул Сяргея Дубаўца «Беларусь — гэта мова».

Мова — гэта ўсё, што засталося ад Беларусі, лічыць Дубавец: «...апошні рубеж... адзіны інструмент і адзіная зброя шырокага цывілізацыйнага руху».

Прыгожы тэкст, прывабна завостраная думка, глыбокі падтэкст... Але, як ні паглыбляйся, вынікае, што ўсё астатняе — не Беларусь, а немаведама што, якое «зноў па горла ў Расеі»...

Я ведаю чалавека, які прыкладае шмат намаганняў, каб улезці ў Расію па горла. Лукашэнка? Не, апазіцыянер, так бы мовіць. Да таго ж дастаткова вядомы пісьменнік. Некалькі гадоў таму намагаўся надрукаваць у расійскіх газетах адкрыты ліст да... Пуціна, каб ён «остановил русификацию» і пасадзейнічаў вырашэнню моўнага пытання. Як быццам Беларусь зноў у складзе Расіі. Дарэчы, пад лістом стаялі подпісы шмат каго з паважаных дзеячаў беларушчыны... Праз некаторы час, праглядаючы часопіс «Наш современник», вядомы сваім дэмагагічна-пячорным антысемітызмам, я заўважыў ліст нашага «змагара за мову» да Станіслава Куняева, галоўнага рэдактара і нястомнага імперца. З ліслівасцю чалавека, якога мала хто разумее, ён запэўніваў адрасата ў сваёй прыхільнасці і прапанаваў надрукаваць свой новы раман, які цалкам супадае з палітыкай часопіса і поглядамі яго галоўнага рэдактара...

Такі вось апошні рубеж... адзіны інструмент... адзіная зброя...

...Цяжка зразумець, чаму паэту (у Дубаўца маецца на ўвазе светлай памяці Валянцін Тарас) дазваляецца так званы білінгвізм, а простаму народу — шыза. Навошта ж білінгвістычную шызу ды элементарную непісьменнасць чынавенства ляпіць да народа, блытаць чынавенства з ягонай лянотай і звычкай шукаць праўду ў роце начальства з мільёнамі тых беларусаў, што трапілі ў пастку русіфікацыі? Тым больш нельга ладзіць з мовы «прыбор», падобны прыбору для рас-

### Не плач, Сярожа. Усё яшчэ будзе...

пазнання «свой—чужы». Дубавец, вядома, такі прыбор не ладзіць. «Распазнанне» само выпростоўваецца з-пад штучных тэзісаў пра «водападзел» і «адзіную зброю»...

Цемрашальства ці проста глупства — пярэчыць разгортванню шырокага цывілізацыйнага руху, заснаванага на распаўсюдзе ведання ды ўжывання роднай мовы. Тут я з Дубаўцом згодны, нават гатовы ўскрыкнуць: «Даўно пара!» Але лічыць, што мова — гэта адзінае, што выцягне краіну з багны лукашызму і гарантуе сапраўдную незалежнасць, — значыць не проста памыляцца ў стылі Мюнхгаўзена, а ізноў, як напачатку 90-х, небяспечна збочваць у каляіну, што, насамрэч, спрыяе таму, каб улезці «па горла ў Расею» накшталт Татарстана ці Удмурціі... Але там не існуюць татарская ды удмурцкая мовы? Існуюць. Нават квітнеюць... А якія-небудзь, умоўна кажучы, «неглюбскія бабулькі» заўсёды знойдуцца...

Я не фармацэўт з рэцэптурнага аддзела палітычнай аптэкі, але ўпэўнены, што адпаведныя лекі для Беларусі трэба гатаваць з больш складаных рэчываў. Для мільёнаў беларусаў, што купіліся на подлы рэферэндум аб дзяржаўным двухмоўі, яна сталася толькі ўскосна роднай. Бо цяжка лічыць роднай, ад першых слоў маці і першага буквара, мову, якая на працягу паловы мінулага стагоддзя вывучалася, ды і сёння вывучаецца падобна іншаземнай...

Не напіўся конік... утапіўся «мальчык»... толькі вочкі блішчаць...

Але гэта не шыза, а сюр. Не шыза падвоенай свядомасці, а сюр няўмольных гістарычных абставінаў.

Ці здолее пераадолець гэтыя абставіны і стварыць новыя, спрыяльныя для беларускай будучыні, не ўмоўная, а нанова народжаная, маладая Беларусь? Здолее. Калі гэтае пытанне паўстане перад ёю як пытанне ўжо не мары, а дзеяння.

Тады і конік з «мальчыкам» нап'юцца чысцюткай празрыстай вады.

...Мудрая ўсё ж была бабка Кастуся. Што Саламон. Толькі той — «усё пройдзе», а тая — «усё яшчэ будзе».

Па сутнасці, тое ж...

*kamerton_41@mail.ru*

# Школу Янкі Купалы зачынілі ў юбілей песняра

**У Бяларучах і суседніх вёсках не знайшлося ніводнага першакласніка.**




> « Жыхары катэджаў пасылаюць дзяцей вучыцца ў Мінск

Яшчэ маўтара масяца Бяларуцкая базавая школа будзе працаваць.

Бяларуцкая базавая школа, якая знаходзіцца на поўдні Лагойшчыны, дапрацоўвае апошнія дні. 1 верасня заняткі ў ёй не пачнуцца. Прычынай таму стала дэмаграфія. «Настаўнікаў стала больш, чым вучняў», — сумна жартуюць у доме праз дарогу ад школы. Зрэшты, толькі па Міншчыне сёлета будуць расфармаваныя амаль 30 школ.

Але Бяларучы — незвычайная вёска. Вядомасць яна атрымала дзякуючы народнаму вучылішчу, дзе ад восені 1897 да вясны 1898 вучыўся пятнаццацігадовы Іван Луцэвіч — Янка Купала. У Бяларучах ён здаў экстэрнам экзамены і атрымаў атэстат аб адукацыі.

У вайну драўляны будынак школы згарэў, таму па сканчэнні Другой сусветнай вайны было вырашана пабудаваць новую школу, якая атрымала імя Янкі Купалы. Неўзабаве ў ёй быў створаны музей песняра, а каля ўваходу з'явілася мемарыяльная дошка. Аднапавярховы цагляны будынак з недарэчным цяпер транспарантам «Сардэчна запрашаем» усё яшчэ выглядае дагледжаным. Некалькі класаў, спортзал і сталоўка. За будынкам — невялікае футбольнае поле і турнікі.

Бяларучы павольна выміраюць: паводле апошніх падлікаў, тут жыве менш за 70 чалавек. Аднак на змену ім прыходзяць «катэджныя».

25 кіламетраў ад Мінска — адлегласць, якая дазваляе працаваць у горадзе, а жыць на прыродзе. Свабоднай хаты тут не знойдзеш, усё перапрададзена і перабудавана. Дарэчы, пустыя ўчасткі па 10 сотак прадаюцца па $6-7 тысяч, а гатовыя дамы можна набыць за $50 тысяч. Аднак у любым выпадку двух-і трохпавярховыя катэджы з расійскімі спадарожнікавымі антэнамі «Трыкалор» на даху жывуць сваім жыццём. Бацькі возяць дзяцей у мінскія ліцэі і гімназіі, таму Бяларуцкая школа стаіць паўпустая.

«Сёлета ў нас вучылася 25 чалавек, — расказвае дырэктарка Людміла Васільчанка. — Пяць чалавек выпусціліся, яшчэ некалькі раз'ехаліся. Засталося 18 вучняў». Столькі ж працавала настаўнікаў і тэхнічнага персаналу. У дзесяці вёсках, адкуль аўтобус забірае дзяцей у Бяларучы, не знайшлося ніводнага першакласніка. «Калі не закрываць школу цяпер, то давядзецца гэта рабіць зімой, у студзені. А настаўнікам у сярэдзіне навучальнага году не будзе куды ўладкавацца», — тлумачыць дырэктарка. Большасць дзяцей пойдзе вучацца ў суседняе Сёмкава, а некаторыя настаўнікі знойдуць працу ў Астрашыцы.

Што рабіць з музеем, пакуль не вырашана. Адзін з варыянтаў — аддаць экспанаты ў філію купалаўскага музея ў Акопы.

Да 1 верасня школа яшчэ працуе. Што будзе пасля? Хутчэй за ўсё, будынак будзе выстаўлены на аўкцыён. На якую цану варта арыентавацца ахвотным набыць школу імя Янкі Купалы, сказаць складана. Для параўнання, на сайце Лагойскага райвыканкама выстаўлены на продаж сельскі клуб, за яго просяць каля $4 тысяч.

**Ягор Марціновіч, Бяларучы-Мінск**

У канцы лістапада 2007 у Бяларучах знікла 7-гадовая Ірына Кужэльная, вучаніца 2-га класа мясцовай школы. Яна жыла ў суседніх Алекшыцах, але дадому не вярнулася. Уся краіна сачыла за пошукамі дзяўчынкі. Праз паўтара месяца яе цела было знойдзена на тэрыторыі суседняга дачнага пасёлка. Забойцам аказаўся 29-гадовы псіхічна хворы мінчанін, інвалід II групы. Ён задушыў дзяўчынку, а пасля спрабаваў падпаліць.









**Непрыгожа**

# П'яны базар

**Фестываль «Славянскі базар» у Віцебску суправаджаецца масавай гульбой.**

І гэтаму нямала спрыяюць разнастайныя вулічныя кавярні з недарагімі стравамі і алкаголем.

Аднак не ўсе могуць правільна разлічыць дозу начной прахалоды. Некаторых даводзілася транспартаваць ў спецыяльна прызначаныя для празмерна вясёлых адпачывальнікаў месцы.

**Фота Уладзя Грыдзіна, БелаПАН**

# Страшная смерць на МАЗе

Жанчыне **расціснула галаву** электракарам.

23 чэрвеня на Мінскім аўтамабільным заводзе адбыўся трагічны выпадак: Любоў Клімовіч насмерць прыціснула электракарам, на якім яна працавала. Электракар сутыкнуўся з аўтапагрузчыкам. Ад удару жанчына вывалілася з кабіны.

«Электракар упаў на маму і літаральна раструшчыў ёй галаву,— расказвае сын Любові Клімовіч Аляксей. — Яна выйшла на працу з адпачынку за шэсць дзён да трагедыі і расказвала нам, што за час яе адсутнасці пасажырскія дзверы пачалі адчыняцца адвольна. Яна патрабавала адрамантаваць электракар. Калі б дзверы падчас аварыі не адчыніліся, мама, магчыма, засталася б жывой. Акрамя гэтага, як нам казалі, кіроўца аўтапагрузчыка быў нецвярозы».

Пра тое, што кіроўца быў п'яны, сведчыць і афіцыйны адказ Фэдэрацыі прафсаюзаў Беларусі. «Згодна з актам агляду, у яго крыві выяўлена 0,46 праміле алкаголю. Падчас расследвання ўстаноўлена, што ў дзень няшчаснага выпадку кіроўца медыцынскі кантроль на прадпрыемстве не праходзіў».

Дачка і сын загінуўшай лічаць, што адміністрацыя МАЗа хоча прадставіць трагедыю, як няшчасны выпадак. «Адзінае, што яны зрабілі для арганізацыі пахавання — далі катафалк і аўтобус. Ніякіх кампенсацый не выплачвалі. А мама аддала заводу апошнія 20 гадоў у яе неперарыўны стаж на МАЗе», — абураецца сын нябожчыцы.

На МАЗе адмаўляюцца каментаваць трагедыю.

Старшы следчы Завадскога аддзела Следчага камітэта Вольга Чаус паведаміла, што праверка матэрыялаў аб здарэнні працягнецца да 23 ліпеня. Па яе словах, карціна таго, што здарылася, да канца не ясная. Маўляў, калі б усё было адназначна, крымінальную справу завялі б адразу.

Якая статыстыка траўматызму і смяротнасці на вытворчасці? «Прадпрыемствы імкнуцца замоўчваць такія лічбы, — адзначыў старшыня Беларускага незалежнага прафсаюза Мікалай Зімін. — Што датычыцца судовых пазоваў рабочых ці іх сем'яў супраць буйных прадпрыемстваў, то гэта выключныя выпадкі, і я не памятаю, каб на маёй практыцы рабочыя перамагалі ў такіх працэсах».




Тым не менш, сям'я Клімовічаў збіраецца ісці да канца. «Мы не разлічваем на матэрыяльную кампенсацыю, — гаворыць Аляксей. — Мы спадзяемся толькі дамагчыся справядлівасці і зрабіць так, каб надалей прадпрыемствы больш уважліва адносіліся да ўмоў працы і ў такіх сітуацыях не імкнуліся замаскіраваць свае правіны пад няшчасны выпадак».

**Ганна Бадзяка**

# Асуджаны міліцыянт Лінкус: «Ведаеце, у нас краіна ўсё-ткі гуманная»


АЛЕНА ЗУЕВА, КП.

Ён застаецца **на свабодзе**.

У лютым былы начальнік Гродзенскага абласнога ўпраўлення Дэпартамента аховы МУС Дзінас Лінкус быў асуджаны на 4 гады калоніі ўзмоцненага рэжыму. Суд прызнаў яго вінаватым у збіцці свайго падначаленага — начальніка Шчучынскага раённага Дэпартамента аховы Аляксея Сяргея. Лінкус адмаўляе абвінавачванне. Карэспандэнт «НН» пагаварыў з Дзінасам Лінкусам — ён застаецца на свабодзе.

**«Наша Ніва»: Абскарджванне прысуду ўжо было?**

**Дзінас Лінкус:** Так.

**«НН»: І які вынік?**

**ДЛ:** Пакінулі без зменаў.

**«НН»: Пад варту Вас не ўзялі. Чаму?**

**ДЛ:** Ведаеце, у нас краіна ўсё-ткі гуманная, і суд у тым ліку. У мяне трое дзяцей — адзін з іх грудны...

**«НН»: Вы знаходзіцеся пад хатнім арыштам ці пад падпіскай?**

**ДЛ:** Не, хатняга арышту няма. Я магу без праблем перасоўвацца. Але знаходжуся ўсё роўна па месцы жыхарства, у горадзе. У любым выпадку знаходжуся пад пэўным кантролем. Судовае следства яшчэ не скончылася.

**«НН»: Пры разглядзе касацыйнай скаргі прысутнічаў пацярпелы Сяргей?**

**ДЛ:** Так.

**«НН»: Вы кантактавалі з ім? Як ён Вам у вочы глядзіць?**

**ДЛ:** Кантакт быў. Як у вочы глядзіць? Я не хачу пра гэта казаць. Усё роўна гэта мае словы. Напэўна, трэба, каб сказалі людзі, якія там прысутнічалі. Бо прадстаўляць так, што я нагаворваю на кагосьці, няпраўду кажу. Я не буду на гэтае пытанне адказваць. Скажу толькі, што на дадзены момант, нягледзячы ні на якія супярэчнасці паміж мной і пацярпелым, я ў любым выпадку пагасіў шкоду. Прынёс прабачэнне чалавеку, але без агаворкі за што. За што лічыць ён патрэбным, я выбачыўся. Думак пра тое, каб зрабіць гэтаму чалавеку кепска, няма. Мэта ў мяне адна — даказаць, наколькі гэта магчыма, што накіраванне мяне ў калонію было б памылкай. Лічыць, што чалавек з вышэйшай адукацыяй, за такі склад злачынства, у якога трое дзяцей, якія шмат гадоў добрасумленна служыў, выправіцца ў калоніі, проста неразумна. Дакажу я сваю праўду, ці апраўдаюць мяне — гэта другаснае. Галоўнае — застацца на свабодзе чыста з меркаваннямі выхавання дзяцей.

**«НН»: На мінулым тыдні Аляксандр Лукашэнка падпісаў закон «Аб амністыі». Ваша справа падпадае пад яго?**

**ДЛ:** Пад вызваленне я не падыходжу. Скарачэнне тэрміну — ёсць такая магчымасць. Але скарачэнне — не вызваленне. Вы разумееце, калі маленькае дзіця, а ты прыходзіш з месцаў не такіх аддаленых, нават праз 2 гады, яно ўжо не маленькае. І як жонцы выхоўваць трох дзяцей? Нават год — гэта тэрмін.

**Сяргей Макарэвіч**

## Віцебскі віцэ-губернатар завіс у ізалятары

У судзе **перапынак**.

Крымінальная справа ў адносінах да экс-намесніка старшыні Віцебскага аблвыканкама Леаніда Кавалёва знаходзіцца ў Мінскім гарадскім судзе. Яе разгляд пачаўся яшчэ ў 2011. А пасля працэс прыпынілі: нібыта чакаюцца вынікі нейкіх экспертыз.

У Мінскім гарадскім судзе паведамілі, што справа так і не аднавілася. Адна з прычын — суддзя ў адпачынку. Калі ж адпачынак скончыцца, сказаць не змаглі.

За што канкрэтна ці па якім артыкуле Працоўнага кодэкса Кавалёва вызвалілі з займанай пасады, мы паспрабавалі высветліць у Віцебскім аблвыканкаме. На афіцыйны зварот прыйшоў адказ: «Паколькі ён [Леанід Кавалёў — «НН»] знаходзіцца пад следствам, доступ журналістаў да ўсіх звестак, звязаных з матэрыяламі дазнання, папярэднята следства і судовага разбору, да заканчэння вытворчасці па крымінальнай справе абмежаваны».

Да працы ў аблвыканкаме Кавалёў узначальваў БРСМ.

**СМ**

## Сцісла

### У Вілейскім раёне БМВ пратараніла аўтобус

У аўтобусе знаходзіліся 26 пасажыраў, траўмы атрымалі чацвёра. Кіроўца БМВ памёр на месцы.

### Памежнік браў хабар праз жонку

Следчы камітэт завёў крымінальную справа ў дачыненні да жонкі былога намесніка начальніка ОПК «Варшаўскі мост». Прадпрымальнікі ішлі ўдзень дамоў да памежніка, размаўлялі з яго жонкай, плацілі грошы, а тая ўжо казала мужу, калі і каго трэба прапусціць.

### У Полацку ўчынены разбойны напад на таксіста

Мужчына расказаў, што каля вёскі Тросна невядомы, якога ён падвозіў на сваім «Сітраене», з прымяненнем нажа забраў у яго 460 тысяч рублёў.

### У Бабруйску замардавалі пенсіянера

66-гадовага мужчыну знайшлі ва ўласнай кватэры. У яго на целе былі сляды збіцця, рэзаная рана шыі, рукі і ногі звязаны.

**ЛМ**

# Не стала аўтаркі легендарных «Ручнікоў»

Сапраўднае імя **Веры Вярбы** — Гертруда Маркава.

Ёй было 70 гадоў. Знайшоў яе сын: была адна на лецішчы.

Вера Вярба нарадзілася 14 студзеня 1942 у вёсцы Высокі Гарадзец Талачынскага раёна. Дэбютавала лятуценным і рамантычным зборнікам «Вочы вясны» ў 20 гадоў.

Гэтая, як напісаў Адам Глобус, «эфектная» жанчына доўгі час працавала ў часопісе «Беларусь». Яна не мільгала ў свецкай хроніцы, але пакінула пасля сябе цудоўныя вершы. Адзін з іх, «Ручнікі», пакладзены на музыку кампазітарам-самавукам Мікалаем Пятрэнкам і праспяваны «Песнярамі», стаў народнай песняй:

У суботу Янка ехаў ля ракі.
Пад вярбой Алёна мыла ручнікі.
— Пакажы, Алёна, броду земляку,
Дзе тут пераехаць на кані раку?

— Адчапіся, хлопец, едзь абы-куды,
Не муці мне толькі чыстае вады.
У маркоце Янка галавой панік,
Упусціла дзеўка беленькі ручнік.

— Янка, мой саколік, памажы хутчэй,
Ой, плыве-знікае ручнічок з вачэй!
— Любая Алёна, я ж вады баюсь,
Пацалуй спачатку, бо я утаплюсь.

Супыніўся гнеды пад вярбой густой,
Цалавала Янку Лена над ракой.
Стала ціха-ціха на усёй зямлі…
Па рацэ далёка ручнікі плылі.

«Нейк Кастусь Цвірка запрасіў сяброў на радзіму, — згадвае паэт Сяргей Панізнік. — Ля возера каля Зялёнай Дубровы ў Старадарожскім раёне сабраліся паэты і музыкі, кампазітары і спевакі. Зводдаль ад вогнішча прысела Вера Вярба. Дык Яраслаў Еўдакімаў, калі яе пабачыў, пацалаваў пантофлік аўтаркі славутых «Ручнікоў».

Песня гучыць і цяпер.

**Сяргей Мікулевіч**



СЯРГЕЙ ПАНІЗНІК

**Яраслаў Еўдакімаў цалуе пантофлік Веры Вярбы.**

# Аляксандру Ціхановічу — 60

**10 фактаў** пра Аляксандра Ціхановіча.

**1. Першы інструмент Аляксандра Ціхановіча — туба.** Захапленне малога Сашы гэтай вялізнай трубой было такім моцным, што ён бавіў з тубай амаль увесь час. Дзеля яе нават прапускаў заняткі ў Сувораўскай вучэльні.

**Аляксандр Ціхановіч**

нар. 13 ліпеня 1952 у Мінску. У 1982 г. скончыў аддзяленне духавых і ўдарных інструментаў Кансерваторыі па класе тубы. Дэбютаваў на сцэне ў 1970 як бас-гітарыст. У 1973—1987 — бас-гітарыст, вакаліст ВІА «Верасы». У 1976 ажаніўся з Ядзвігай Паплаўскай. У 1989 разам з Паплаўскай стварыў гурт «Шчаслівы выпадак», на аснове якога паўстаў Тэатр песні. У 1994 Тэатр песні пераtварыўся ў «Студыю А. Ціхановіча і Я. Паплаўскай». Сярод найболей вядомых песень — «Шчаслівы выпадак», «Завіруха», «Малінаўка».

**2. Рынгтонам на тэлефоне Ціхановіча стаіць «Малінаўка».** Хоць спачатку выканаўца не хацеў яе спяваць. Песенька пра птушку і яе галасок здавалася «Верасам» занадта простай. Яе і запісалі выпадкова — каб дапоўніць альбом. І «Малінаўка» стала мегахітом ва ўсім СССР.

**3. Ціхановіч спяваў з Лукашэнкам дуэтам.** Што? Ну вядома ж «Малінаўку».

**4. Ціхановіч займаўся джазам.** Ядзвіга Паплаўская згадвае, як ён выступаў з джаз-рокавым гуртом «Мінск» (названым так па аналогіі з амерыканскім Chicago). Па словах Паплаўскай, «Саша бегаў па сцэне з бас-гітарай, яго было немагчыма не заўважыць». Але «Мінск» забаранілі пасля ліста ў газету ад слухачоў, якія «не разумелі, што гэта такое гучыць на сцэне».

**5. Ціхановіч сябраваў з Дынам Рыдам, спеваком і самым вядомым амерыканскім камуністам.** Яны нават разам гастралявалі на БАМ. Пасля Ціхановіч ездзіў да Дына Рыда ва Усходні Берлін. Дзіўнага тут нічога няма: «Верасы» ствараліся як ансамбль палітычнай песні.

**6. Ціхановіча прымушалі зголіць вусы.** Гэта было ў часы ранніх «Верасоў». Для беларускай эстрады, з пункту гледжання партыі, было дастаткова вусоў Мулявіна.

**7. Ціхановіча падставілі з наркотыкамі.** Пра той скандал, што разгарэўся яшчэ за Саветамі, фігуранты маўчаць. Ціхановіч называе тую сітуацыю «звычайнай падставай» і адзначае, што людзі, якія яе арганізавалі, прынеслі яму прабачэнні. Аднак з «Верасоў» Ціхановіч з Паплаўскай пасля таго сышлі.

**8. «Ляпісы» пачыналі ў Ціхановіча?** У 1988 Аляксандр Ціхановіч і Ядзвіга Паплаўская арганізавалі Тэатр-студыю, праз якую ў розныя часы прайшлі многія вядомыя музыкі — ад Аляксандра Саладухі да «Ляпіса Трубяцкога». Хаця ў біяграфіі «Ляпісаў» гэты факт чамусьці не згадваецца.

**9. Ціхановіч верыць у невінаватасць прадзюсара Баранава.** Апошняя гучная навіна, звязаная з Аляксандрам Ціхановічам, тычылася фальсіфікацыі вынікаў «Еўрафэсту». Аказалася, што па выніках глядацкага галасавання перамагла не спявачка Алёна Ланская, як было заяўлена спачатку, а гурт Litesound. Прэзідэнцкая камісія вызначыла, што вінаваты ў падтасоўцы прадзюсар Дзмітрый Баранаў. Ціхановіч і Паплаўская, калі скандал набіраў абароты, былі на гастролях.

**10. Ціхановіч і Паплаўская — самы стабільны дуэт беларускай эстрады.** Яны ўвесь час у турах: не цураюцца беларускай глыбінкі, дый Расію ўсю аб'ездзілі. Маюць багата прыхільнікаў, дыскі прадаюцца, дый жывуць яны мірна апошнія 25 гадоў. Часам толькі «Еўрафэст» псуе настрой ці «Еўрабачанне».

**Юрась Ускоў**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Фотафакт



АЛЯКСЕЙ ТРУБКІН

**13 і 14 ліпеня ў Гарадку на Беласточчыне прайшоў легендарны фэст беларускай музыкі — «Басовішча». Некалькі тысяч чалавек прыехала паслухаць беларускія і польскія гурты. Хэдлайнерамі сёлета былі «Сцяна», «Зніч» і Neuro Dubel. «Басовішча» дае беларускай моладзі магчымасць патанчыць пад «непажаданыя» ў Беларусі гурты пад нацыянальнымі сцягамі — і проста падурэць.**

## Сцісла

**«Ляпісы» прэзентавалі «Жалезны» кліп**

Кампазіцыя заснаваная на рэальнай гісторыі. 20 гадоў таму лідар «Ляпісаў» Сяргей Міхалок перажыў клінічную смерць пасля перадазіроўкі ўнутрывенным наркотыкам.

**Нясвіжскі палац адкрыюць 20 ліпеня?**

Верагодна, будзе прысутнічаць Аляксандр Лукашэнка. Афіцыйнае пацверджанне атрымаць немагчыма, аднак у неафіцыйнай размове супрацоўнікі музея-запаведніка пацвярджаюць гэта. Пра прыезд Лукашэнкі ўскосна сведчыць тое, што ў супрацоўнікаў перапісваюць пашпартныя звесткі і праводзяць інструктаж. Адкрыццё адрэстаўраванага замка пераносілася шматразова.

**«У тумане» перамог на кінафестывалі**

Фільм «У тумане» рэжысёра Сяргея Лазніцы стаў пераможцам IX Міжнароднага кінафестывалю «Залаты абрыкос» у Ерэване. Ён узнагароджаны ў намінацыі «Ігравое кіно». «У тумане» — экранізацыя аднайменнай аповесці Васіля Быкава. Фестываль праводзіцца ў Ерэване ад 2004 і лічыцца адным з самых прэстыжных у рэгіёне.

**На «Базары» найлепшы — македонец**

Пераможцам XXI конкурсу «Віцебск-2012» стаў Бобан Майсоўскі. Другое месца заняла Саманта Ціна з Латвіі, трэцяе — ва ўкраінкі Галіны Конах. Беларус Яўген Славіч заняў 7-е месца. У конкурсе бралі ўдзел прадстаўнікі дваццаці краін. Уладальнік Гран-пры атрымаў 15 тысяч даляраў, першай прэміі — 9 тысяч, другой — 6 тысяч, трэцяй — 3 тысячы.

**СМ**

# Тое, што аб'ядноўвае

Беларусы страшэнныя індывідуалісты. Піша **Алесь Кіркевіч**.

Адзін мой знаёмы, які ніколі не быў заангажаваны ў якую-кольвек палітычную партыю ці арганізацыю, неяк сказаў, што самым лепшым заклікам з кампаніі Мілінкевіча ў 2006 быў заклік да салідарнасці паміж беларусамі. Магчыма, ён мае рацыю з прычыны сваёй партыйнай «стэрыльнасці», магчыма, не — з той самай прычыны.

Факт застаецца фактам: беларусы страшэнныя індывідуалісты, і з гэтым трэба нешта рабіць.

Нават той нешматлікі працэнт беларусаў, які лічыць дурнотай салют ад сувораўцаў у фальварку Касцюшкаў Мерачоўшчына, аказваецца разадраны паміж апазіцыйнымі партыямі, этнаграфічнымі гурткамі, царкоўнымі суполкамі, якія варацца ў сваім варыве і ўпотай кпяць з рэшты патэнцыйных аднадумцаў. Сярод беларусаў няма не тое што ўзаемадапамогі, але нават элементарнай павагі...

Што гэта? Адкуль гэта ў нас? Мажліва, з часоў Боны Сфорцы і яе сельскагаспадарчай рэформы, якая падзяліла зямлю на валокі, а беларусам наканавала бачыць сусвет ад слупка да слупка, крый Божа не далей! Не ведаю, хай разважаюць тыя, хто давучыўся хаця б да 3-га курса гістфака...



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



**Алесь Кіркевіч**

Намеснік старшыні «Маладога Фронту», кіраўнік Гродзенскай філіі. Нарадзіўся ў 1989 у Гродна ў сям'і гісторыкаў. Ягоны дзед Аляксандр быў вядомым у Гродна краязнаўцам. Быў арыштаваны па справе 19 снежня 2010. Адседзеў 10 месяцаў у турме і СІЗА.

Няўжо «палітыкі» не разумеюць, што прага да свабоды і беларускасці расце акурат з урокаў гісторыі, скаўцкіх летнікаў, гутарак пры вогнішчы? Няўжо «культурнікі», а разам з імі журналісты ды ўсялякага роду «ЭнЖэО», не ўцямяць, што, разбіўшы ўшчэнт апазіцыю, Лукашэнка па прынцыпе закручвання гаек зоймецца наўпрост імі, іх офісамі, іх фэстамі, іх вечарынамі?

Цешыць адно — Лукашэнка пасланы беларусам Богам для з'яднання, як калісьці Сталін аб'яднаў масу вельмі розных людзей у падобных умовах, з адно́лькавымі ватоўкамі ды пiламі «Дружба»... Ідэалогія лукашызму — мёртванаро-джаная, стэрыльная, сярод яе адэптаў дашуквацца сэнсу не прынята: прыкмета дрэннага густу. Бо там, далей, за банерам — «З(С) Днём Незалежнасці!», пустэча. Паглядзіце, як называюць вуліцы ў новых катэджавых пасёлках: «Отрадная», «Рябиновая»... Гэта нават не «Леніна» альбо «Суворава». Ідэалогіі наўпрост не існуе — няма герояў, гісторыі, нават геаграфічных арыенціраў. Перамога лабараторнага вакууму лукашызму зробіць роўнымі ўсіх нас, пакінуўшы кожнаму персанальную графу ў спісе маёмасці для перадачы ў спадчыну вядома каму праз «гадкоў 20-25»...

**Палітвязні будуць удзячныя, калі вы напішаце ім пару радкоў у калонію**

Адказам на гэта можа стаць толькі салідарнасць. Тыя, хто яшчэ не гатовыя набіць інвентарны нумар сабе на руку, а «права першай ночы» не будзе ўспрымаць як «законнае патрабаванне з боку міліцыі», маюць быць салідарнымі. З Міколам, Яўгенам, Сяргеем. Так, гэтыя людзі цяпер за кратамі, іх нашчадкі і нашчадкі іх суседзяў па лесвічнай пляцоўцы будуць імі ганарыцца, але пакуль іх сем'і патрабуюць дапамогі, адвакаты — аплаты, а самі яны будуць удзячныя, калі вы напішаце ім пару радкоў у калонію альбо «на турму». А яшчэ мы можам зрабіць іх героямі — хаця б пару разоў на тыдзень у сваёй «фрэнд-стужцы» замест «мімімішак» і ружовых пупсікаў змясціць партрэты Дзядка, Васьковіча, Лобава, Дашкевіча, Каваленкі...

# Беларуская глыбіня. **Паміж Каліноўскім і Дастаеўскім**

Піша **Павел Севярынец**.

*...Ён ёсць мір наш, Які зрабіў з двух адно і зруйнаваў перашкоду пасярэдзіне, Скасаваўшы варожасць Плоццю Сваёю. Да эфесцаў 2:14-15.*

Ад радавога гнязда Дастаеўскіх, Дастоева на сённяшняй Берасцейшчыне, да колішняй сядзібы Каліноўскіх у Якушоўцы пад Свіслаччу — пара гадзін па-расейску хуткай язды, з усходу на захад. Можна дабрацца праз Куплін ды Пружаны. Можна — праз Жыровічы.

Акурат у Жыровічах, на паўдарозе паміж Каліноўскім і Дастаеўскім, у Свята-Успенскім стаўрапігіяльным мужчынскім манастыры, служыць былы дысідэнт, паэт і філосаф Алег Бембель, цяпер — інак Мікалай, аўтар глыбокага хрысціянскага эсэ «Дастаеўскі і Каліноўскі».

У перадсмяротным стане, з невылечнай язвай Алег Бембель на пару дзён прыехаў у Жыровічы. Пакаяўся, прыняў Бога, атрымаў ацаленне і застаўся тут на ўсё жыццё. Светлы, заўсёды ўсмешлівы, інак Мікалай цяпер паказвае заезджым наведнікам абіцель і наваколле. Піша хрысціянскія вершы па-беларуску і рэдагуе 50-тысячную «Жыровіцкую абіцель», якая шырока раздаецца ў заходнебеларускіх прыходах. Адзін з такіх лісткоў — «Дастаеўскі і Каліноўскі» — пра два шляхі беларуса. Інак Мікалай упэўнены, што расейскі шлях Дастаеўскага, негвалтоўны шлях творцы і верніка, — слушны, а шлях «заходніка» Каліноўскага — змагара, які ўзяў меч паўстання і загінуў, — хай сабе гераічны, але памылковы.



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

Вядома, Дастаеўскі — *наш*.

Род Дастаеўскіх шляхецкага герба «Радван» бярэ пачатак з XV ст. на Піншчыне. У 1577 Стэфан Іванавіч Дастаеўскі, зямянін менскі, атрымаў ад свайго цёзкі караля Сцяпана Батуры прывілей на Менскі Узнясенскі праваслаўны манастыр на той самай Траецкай гары, дзе зараз Міністэрства абароны. Дзед Дастаеўскага Андрэй — аўтар «Пакаяннай Песні», апублікаванай у зборніку «Богагласнік».

Народжаны ў Маскве, у маладосці рэвалюцыянер, у 1849 прысуджаны да смяротнай кары за публічнае агучванне ліста Бялінскага (расстрэл заменены на зняволенне) — ужо на катарзе, чытаючы падоранае жонкамі дзекабрыстаў Евангелле, Дастаеўскі саспеў як вернік. Ягоная захапляльная блізкасць і зразумеласць для еўрапейцаў — вынік ментальнай ліцьвінскасці і ўсёй істотай перажытага хрысціянства. У «загадкавай расейскай душы», якую так любяць шукаць у прозе Дастаеўскага, калі прыгледзецца пільна, насамрэч прасвечвае беларуская глыбіня.

А беларус Кастусь Каліноўскі рэвалюцыянерам і загінуў. Навучэнец Свіслацкай прагімназіі і Піцерскага юрфака, стваральнік нелегальных гурткоў і рэдактар «Мужыцкай праўды», ён аб'яздж аў мястэчкі ды вёскі, абвяшчаў: «Не народ для ўрада, а ўрад для народа!» — і ўрэшце ўзначаліў паўстанне.

Каліноўскі, грэка-каталік, верыў у Бога, што адрознівае яго ад большасці рэвалюцыянераў і народнікаў ягонага часу, перакананых бязбожнікаў. «Калі Сын Божы, прыйдучы на гэты свет, усталяваў праўдзівую веру і за гэтую веру трываў хросныя пакуты, то... для таго, дзеці, Бог Найвышэйшы трываў за нас, каб закон яго быў ужо вечны...» («Мужыцкая праўда»).

Так таемна супала, што год смерці Каліноўскага для Дастаеўскага стаўся ключавым. «У гэты год, — піша ён пра 1864, калі раптам памерла ягоная жонка, а потым і брат, — усё жыццё маё пераламілася папалам». Біёграфы сведчаць: узрушаны, Дастаеўскі менавіта з 1864 піша свае галоўныя, найглыбейшыя, сусветна вядомыя раманы — «Злачынства і пакаранне», дзе выяўляе псіхалогію зла, «Бесы» — прароцтва пра бездань камунізму, і «Братоў Карамазавых», калі ў трох братах разгортваецца ўвесь размах расейскай душы.

З аднаго боку, каліноўскае узброенае паўстанне, з іншага — дастаеўскае, сказанае праз Івана Карамазава: «Ніводная вышэйшая гармонія не вартая слязінкі дзіцёнка...».

Фёдар Міхайлавіч ганарыўся сваім ліцвінскім паходжаннем. Каліноўскага наўпрост называюць адным з бацькоў беларускай нацыі.

Два беларускія шляхецкія роды. Два сыны XIX стагоддзя. Два геніі. Заходнік і ўсходнік. Уніят і праваслаўны. Правадыр партызанаў і пісьменнік. Незалежнік і манархіст. Аўтар «Лістоў з-пад шыбеніцы» і творца «Запісак з падполля».

Хто здольны прымірыць і з'яднаць гэтыя дзве ўспышкі беларускага духу?

Той, у Каго верылі абодва.

Той, Хто жыве і ў глыбока беларускім перажыванні Дастаеўскага, і ў балюча беларускай ахвярнасці Каліноўскага.

Хрыстос — самае Сэрца Беларусі. Ад пакутнай, самаадданай, па-евангельску светлай і наскрозь хрысціянскай гісторыі — да сымбаляў: бел-чырвонабелай Плашчаніцы Уваскрашэння, «Пагоні» з крыжом Еўфрасінні і гімнам «Магутны Божа». Без Хрыста беларускасць ператвараецца ў бессэнсоўны набор адметнасцяў. У форму без зместу. У нямое пытанне: «А... навошта?...».

Гэтак сама «дастаеўшчына», з якой вырваны Ісус, — псіхалагічная каламуць. Гэтак сама «каліноўскасць» і беларускі нацыяналізм без веры — адвачная недарэчнасць.

О, дваістая беларуская душа! Увесь час азіраецца, енчыць, кідаецца паміж Захадам і Усходам, вайной і мірам, пеклам і раем... Хто можа даць супакой і вярнуць цэласнасць гэтай блудніцы, гэтай пакутніцы?

Дастаеўскі сведчыў пра Збаўцу (найвялікшая беларуская місія!) для агромністай імперыі, якая забылася на Бога. Каліноўскі аддаў сваё жыццё за бліжніх, гэтай самай імперыяй прыгнечаных.

Але Дастаеўскі імперыю апраўдваў; Каліноўскі ж з ёю змагаўся.

Адкрыта, гвалтоўна выступіць супраць гвалту — і загінуць. Або мяняць сэрца гвалтаўніка — і дзеля гэтага станавіцца на Ягоны бок...

Прорва для беларускай душы, укрыжаванай паміж Дастаеўскім і Каліноўскім.

Тое, у чым яны не могуць пагадзіцца, — важна. Але Той, Хто іх аб'ядноўвае — важней.

За кім ісці беларусу?

За Каліноўскім?

За Дастаеўскім?

За Тым, за Кім ішлі яны абодва. За Хрыстом.

*Куплін*

**Правадыр партызанаў і пісьменнік. Незалежнік і манархіст**

# Ахвяра рэўнасці Сталіна

Сёлета споўнілася 75 гадоў ад дня трагічнай і загадкавай гібелі Мікалая Галадзеда. Піша **Анатоль Сідарэвіч**.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Крыжы ў Курапатах.**

Бацька Якуба Коласа даў сыну срэбны рубель за тое, што той удала склаў вершык, а Мікола Галадзед зарабіў першы срэбны рубель за тое, што прачытаў школьнаму інспектару шмат вершаў не толькі са школьнае чытанкі.

У хлопчыка былі здольнасці і жаданне вучыцца. Мажліва, з яго атрымаўся б выдатны інжынер, але ён быў старэйшы сын у вялікай сям'і і мусіў уцягвацца ў мужчынскую працу, засвойваць навуку земляроба. Праўда, бацька быў яшчэ і печнікам, і сын вучыўся каля яго і печнікоўскай справе. Стаўшы дзецюком, паехаў у заробкі ў Крывы Рог, дзе ўпісаўся ў рабочую арыстакратыю, вывучыўшыся на электрамеханіка і машыніста. На пачатку 1920-х здавалася, што мара атрымаць вышэйшую адукацыю здзейсніцца: ён паступіў на рабочы факультэт Горацкага сельгасінстытута. Але партыя адклікала яго на «практычную працу».

Яго палітычная кар'ера была бліскучая. Пачаўшы старшынёй валаснога камітэта, у 1924 ён ужо ўзначальваў Горацкі райвыканкам, стаў удзельнікам першага ўзбуйнення БССР. (Беларускія нацыянал-камуністы дамагліся, каб Расія вярнула Беларусі частку ўсходніх земляў, забраных у студзені 1919.) Неўзабаве Галадзед стане другім сакратаром ЦК КП(б)Б. А пасля быў канфлікт між старшынёю СНК БССР Язэпам Адамовічам і першым сакратаром ЦК КП(б)Б Аляксандрам Крыніцкім, чалавекам Масквы. Абодвух выслалі з БССР, і Галадзед стаў старшынёю Саўнаркама. На гэтай пасадзе ён прабудзе амаль 10 гадоў.

### На хвалі славы

Гвалтоўная калектывізацыя і паскораная індустрыялізацыя пры катастрафічным недахопе спецыялістаў, пагромы інтэлігенцыі ў 1930–1931 і 1933–1934, пяцігодка атэізму і ўвядзенне ўсеагульнай сямігадовай адукацыі без належных кадраў і матэрыяльнай базы... Збядненне народа, карткі на харчы (замест наркамата гандлю даводзілася ствараць наркамат забеспячэння)... Трэба было мець жалезныя нервы і вытрымку, каб кіраваць тады гаспадаркай БССР.

Іван Мележ, пішучы ў «Подыху навальніцы» пра сесію ЦВК у лістападзе 1929, глядзеў на кіраўніка ўрада БССР вачамі свайго ўлюбёнага героя Апейкі: «Хударлявы, з рэзкімі валявымі рысамі, Галадзед сядзеў з боку стала, блізка да трыбуны; ён энергічна ўстаў, пад воплескі залы ступіў к трыбуне лёгкаю і пругкаю хадою вайсковага. У яго і пастава была прамая, вайсковая, і ў тым, як ён стаяў за трыбунаю, адчуваліся годнасць, упэўненасць у сабе, у тым, што яму належыць зрабіць».

Апошнія два гады жыцця сталі часам усенароднай славы Галадзеда. Нават папулярны Чарвякоў быццам адышоў на задні план. Галадзед рабіў даклад на ўрачыстым пасяджэнні ў гонар 15-годдзя вызвалення Менска ад польскіх акупантаў, калі ў сталіцу БССР прыехаў Міхаіл Калінін уручаць рэспубліцы ордэн Леніна. Галадзед стаў старшынёй камісіі і ў лютым 1937-га прадставіў XII з'езду Саветаў праект «сталінскай» Канстытуцыі БССР.

Але бальшавіцкіх бонзаў турбаваў культ мясцовых кіраўнікоў. Сталіну рупіла, каб ён адзін быў бацькам народаў. Належала прыбраць з палітычнай арэны даўніх і аўтарытэтных кіраўнікоў саюзных рэспублік, а на іх месца паставіць людзей без біяграфій.

**Сталіну рупіла, каб ён адзін быў бацькам народаў.**

### Падкопы

Гісторык Расціслаў Платонаў піша, што пад старшыню Саўнаркама БССР з 1935-га «капалі» першы сакратар ЦК КП(б)Б Мікалай Гікала, другі сакратар Даніла Валковіч і сакратар Менскага гаркама Арон Рыскін. Да збору кампрамату быў падключаны інстытут гісторыі партыі. Калі ж на пачатку 1937-га Гікалу і Рыскіна адправяць з БССР, справай палітычнай дыскрэдытацыі Галадзеда зойме месца новы першы сакратар Васіль Шаранговіч.

Што дало штуршок да адкрытага наступу? Мажліва, тое, што «ў Менску да 1 Мая ў вітрыне магазіна «Танная кніга» быў вывешаны вялізарны партрэт Галадзеда, а вакол яго невялікія партрэты членаў Палітбюро ЦК УсеКП(б)». Так казаў дэлегатам XVI з'езда КП(б)Б Шаранговіч. Ці самі кнігагандляры так ушанавалі старшыню СНК, ці ім падказалі кіруючыя таварышы, каб потым мець зачэпку для атакі? 25 мая Галадзеда знялі з пасады кіраўніка ўрада.

Вядома, ні бюро, ні пленум не маглі прыняць пастанову без ведама Сталіна. Самадзейнасць у такіх пытаннях выключалася.

1 чэрвеня «Звязда» апублікавала пастанову V сесіі ЦВК БССР ад 30 мая 1937 аб вызваленні Галадзеда аб абавязкаў старшыні СНК і пастанову аб прызначэнні на гэтую пасаду Данілы Валковіча, яго вялікае фота і біяграфію. Нядоўга яму давялося пасядзець у Галадзедавым крэсле.

Галадзеду важна было зняць з сябе палітычныя абвінавачанні. Толькі так можна было ўратаваць жыццё. І ён стаў дамагацца прыёму ў Сталіна.

### У чым яго вінавацілі

Адзін з галоўных абвінаваўцаў Галадзеда на з'ездзе, намеснік загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі ЦК Авеціс Тавакалян, сцвярджаў, што той пісаўся то ўкраінцам, то рускім і нарэшце беларусам. Ведама, крыміналу, тут няма, але можна ўшыць чалавеку палітычны кар'ерызм. Галадзед нарадзіўся ў Навазыбкаўскім павеце (цяпер Бранская вобласць Расіі), дзе жылі і беларусы, і ўкраінцы, і расейцы. Кім ён пісаўся — яго справа. Важна, што Галадзед прыйшоў да Беларусі і паслужыў ёй.

За маральную і матэрыяльную дапамогу падзяку СНК БССР у асобе яго старшыні «тав. Міколы Галадзеда» выносіла літаратурнае згуртаванне «Узвышша», пра дапамогу кіраўніка ўрада літаратурна-мастацкай камуне з удзячнасцю згадваў Ян Скрыган. За Галадзедам урад не аб'ядноўваў акадэмічныя інстытуты, а знаходзіў грошы на заснаванне новых, дый Акадэмія паўстала таксама ў немалой ступені дзякуючы Галадзеду.

Прызваны ў 1914 у царскае войска, рабочы арыстакрат Галадзед служыў у авіяцыі, абслугоўваў электраабсталяванне самалётаў. Але і за службу яму выставілі рахунак. Партчыноўнік Тавакалян казаў: «У 1917 Галадзед быў лётчыкам-назіральнікам у арміі Керанскага і двойчы прэміяваны за ўзорную службу цару і Керанскаму. Ясная справа, што за бальшавізм (гэта значыць, за развал войска. — АС) яго не прэміявалі». На бяду, той 8-й арміяй у красавіку-ліпені 1917 камандаваў Лаўр Карнілаў. Валковіч удакладніў: Галадзед меў Георгіеўскі крыж. Вось адкуль у старшыні СНК былі заўважаныя Апейкам вайсковая пастава, годнасць і ўпэўненасць у сабе.

Гісторык Уладзімір Якутаў піша, што ў 1918 герой ягонай кнігі «Н. М. Голодед» (1981) змагаўся супраць гетманскага рэжыму ва Украіне (Навазыбкаўскі павет Чарнігаўскай губерні быў уключаны тады ў склад Украіны). А Тавакалян з трыбуны з'езда сказаў, што Галадзед «где-то путался» ва Украіне «ў час пятлюраўшчыны». Валковіч сцвярджаў, што Галадзед быў гайдамакам, браў удзел у антыбальшавіцкім паўстанні ў Гліцы і Суражы. Зноў праблема для гісторыка.

У «Звяздзе» за 8 чэрвеня 1937 чытаем, што яшчэ «Галадзед адлюстроўваў лінію правых і буржуазных нацыяналістаў». Ён адстойваў тэорыю хутароў і заступаўся за Змітра Прышчэпава. Вось у чым была яго галоўная віна. А яшчэ яго звязвала асабістае сяброўства з былым камандуючым Беларускай вайсковай акругі Геранімам Убарэвічам. Раскручвалася справа аб змове. Арыштаваныя наркамы Анані Дзякаў і Казімір Бэнек, камандзір корпуса Шахназараў далі паказанні, што Галадзед узначальваў шкодніцкую і шпіёнскую арганізацыю. Агент нямецкай і польскай разведак, ён кіраваў цэнтрам трацкісцка-бухарынскіх змоўшчыкаў. Звязаны з польскім паслом у Маскве і з Варшавай непасрэдна, ён быў адным з кіраўнікоў ваеннай змовы.

### Падступнасць Сталіна

Сталін прыняў Галадзеда. Платонаў пісаў, што ў кароткай гутарцы генсек абяцаў ва ўсім разабрацца. Якутаў удакладняе, што Сталін з Галадзедам не паздароўкаўся і не запрасіў яго сесці, адно сказаў: «Я ўсё ведаю, таварыш Галадзед. Разбяруся. Не хвалюйцеся».

Галадзед з надзеяй вярнуўся ў пастаяннае прадстаўніцтва БССР пры ўрадзе СССР. Пэўна, ён не ведаў, што на пачатку чэрвеня «матэрыялы» на яго ў Маскву прывёз новы старшыня СНК Валковіч. А напярэдадні прыезду Галадзеда ў Маскву наркам унутраных спраў Берман прывёз туды яшчэ адну рату «матэрыялаў». Атрымаўшы іх, наркам унутраных спраў СССР Яжоў з дазволу Сталіна паставіў рэзалюцыю «Арыштаваць».

У пакой у пастпрэдстве, дзе спыніўся Галадзед, увечары 14 чэрвеня пастукаліся энкавэдысты. 15 чэрвеня цягніком у спецвагоне яго даставілі ў Менск, у будынак НКВД...

Там Галадзед памёр 21 чэрвеня. Ад катаванняў, — лічыць Уладзімір Якутаў. — А легенду пра тое, што ён выкінуўся з трэцяга паверха будынка НКВД (ва ўнутраны двор сённяшняга будынка КДБ-МУС), сачынілі ягоныя ж каты. Да ледзь жывога Галадзеда ў НКВД выклікалі вядомага мінскага хірурга Майсея Шапіру. І той падпісаў акт аб самагубстве. Пазней прафесар Шапіра казаў гісторыку: было бачна, што прычынай смерці маглі быць або інсульт, або інфаркт, або ўнутранае кровазліццё.

З другога боку, журналіст Аляксандр Лукашук у публікацыі 1993 у «Звяздзе» называе прозвішча следчага НКВД, які самавольна пакінуў Галадзеда на маладога і нявопытнага супрацоўніка, а былы старшыня СНК БССР, выкарыстаўшы гэта, сапраўды выкінуўся з акна...

Як яно было насамрэч, мусіць, не скажа ніхто. Яшчэ адна загадка эпохі сталінізму.

## ФУТБОЛ

### «Црвена звезда» ў Віцебску




**19 ліпеня** пройдуць матчы другога кваліфікацыйнага раўнда Лігі Еўропы. На гэтай стадыі Беларусь прадстаўляюць тры каманды.
«Шахцёр» — «Рыд» (Аўстрыя). Гульня пройдзе ў Салігорску на стадыёне «Будаўнік». Пачатак а 19-й. Білеты — 10-20 тысяч рублёў.
«Нафтан» — «Црвена Звезда» (Сербія). Гульня адбу-дзецца ў Віцебску. Пачатак а 19-й. Білеты — 50 тысяч. «Црвена Звезда» — адзіная каманда з Усходняй Еўропы, якая выйграла Лігу чэмпіёнаў.
«Рэнова» (Македонія) — «Гомель» (Беларусь). Гэтая гульня пройдзе на Балканах. Матчы ў адказ — праз тыдзень.

## КАНЦЭРТЫ




### Uma2rmaH

**Гурт Uma2rmaH на беразе Мінскага мора.** Загарадная атмасфера, зачараванне заходу і толькі найлепшыя хіты. Заказ квіткоў: (044) 502-11-11.

### Apple Tea

**25 ліпеня а 19-й у «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — «Apple Tea».

### «Эпоха Н. Evolution»

**25 ліпеня а 23-й у «Next» (Кірава, 13)** — «Эпоха Н. Evolution».

### Just Dance

**25, 26, 31 ліпеня а 23-й у Westworld Club (Старажоўская, 15а)** — «Just Dance».

### «Live Improvisation»

**26 ліпеня а 22-й у Dozari (пр. Незалежнасці, 58)** — «Live Improvisation».

### Mojito Disco

**27, 28, 29, 30 ліпеня а 22-й у Mojito (пр. Незалежнасці, 58)** — «Mojito Disco».



### Байкерскі фэст

**Ад 20 да 22 ліпеня 2012 ў комплексе «Лагойск»** пройдзе сёмы міжнародны байкерскі фестываль «Мінск — 2012». Самы маштабны адкрыты злёт збярэ каля 1000 байкераў з краін постсавецкай прасторы, Еўропы і ЗША.

### Cross B Band

**28 ліпеня а 19-й у «Графіці»** — «Cross B Band».

## ВЫСТАВЫ

### Belart.by. Маладыя мастакі Беларусі

**Да 4 жніўня ў вялікай зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** працуе выстава «Belart.by. Маладыя мастакі Беларусі». У экспазіцыі — работы маладых беларускіх мастакоў, якіх яднае вобразнасць выяўленчай мовы. Нацыянальная і гістарычная тэматыка падказвае сюжэты для многіх кампазіцый.

### Мой дружа, Янка



**Да 26 ліпеня ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа (Акадэмічная, 5)** працуе выстава «Мой дружа, Янка». Матэрыялы, прадстаўленыя на выставе, дазволяць наведвальнікам дакрануцца да гісторыі сяброўства класікаў беларускай літаратуры — Янкі Купалы і Якуба Коласа. На выставе прадстаўлены першыя зборнікі вершаў паэтаў — «Жалейка» і «Песні жальбы», выданні нумароў газеты «Наша Ніва» з творамі беларускіх песняроў, вершы-прысвячэнні Якуба Коласа Янку Купалу, рукапісы ўспамінаў і артыкулаў Якуба Коласа, прысвечаных Янку Купалу.

### Ракеш Бані

**Да 28 ліпеня ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва** працуе выстава графікі Ракеша Бані (Індыя). Аўтар прадставіў звыш 20 работ, выкананых у тэхніцы афорта.
У афортах Бані можна ўбачыць чалавечыя фігуры з крыламі стракозаў, мятлушак і анёлаў. Гэтыя вобразы дапамагаюць усвядоміць, што ў гэтым свеце існуе толькі бачная, ілюзорная рэальнасць…

### Сад камянёў

**Да 26 жніўня ў філіяле Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь «Дом-музей І з'езду РСДРП»** працуе выстава мінералаў «Сад камянёў».
На выставе прадстаўлены ўзоры мінералаў (групы кварца, рудныя, самародныя элементы, карбанаты), горныя пароды, каменныя вырабы, выкапнёвыя арганізмы, высакародныя камяні для апрацоўкі і вырабаў, археалагічныя знаходкі.

### Сяргей Каткоў і вучні

**Да 30 ліпеня ў мастацкім музеі** працуе выстава «Сяргей Каткоў і вучні», прымеркаваная да 100-го-ддзя з дня нараджэння мастака.
На выставе прадстаўлены каля 80 твораў жывапісу і графікі ў жанрах пейзажа і нацюрморта з фонду музея, з калекцыі дачкі мастака Святланы Каткова і ўласныя творы вучняў Сяргея Каткова.

## КІНО

### Павук без маскі

**Новы чалавек-павук** (The Amazing Spider-Man).
ЗША, 2012, каляровы, 136 хв., 3D
**Рэжысёр:** Марк Уэб
**Ролі выконваюць:** Эндру Гарфілд, Эма Стоўн, Рыс Іванс, Марцін Шын, Салі Філд
**Жанр:** Навукова-фантастычная коміксавая драма
**Адзнака:** 5,5 (з 10)

Бацька Пітэра Паркера пакінуў сына сваякам — і бясследна знік. Калі хлопец пасталеў, то знайшоў старыя запісы бацькі, які займаўся таямнічымі эксперыментамі. Укус павука пераўтварыў цікаўнага хлопца ў чалавека з незвычайнымі здольнасцямі. Пра гэтыя здольнасці марыць і аднарукі доктар Конарс, які, у выніку мутацыі, становіцца аграмадным злым паўзуном.
Карціна Марка Уэба — апошняя варыяцыя на тэму вядомага амерыканскага комікса. Стужка засяроджваецца на падлеткавых комплексах галоўнага героя, сямейных таямніцах — і любоўнай лініі. Пітэр Паркер куды часцей паўстае перад намі без маскі, ён не баіцца выкрыць сябе перад дзяўчынаю, дзецьмі і паліцэйскім.
Герой Эндру Гарфілда не столькі павук, колькі падлетак з заблытанымі пачуццямі. Але і коміксавыя рысы стужкі нікуды не падзеліся. Каханка героя (другасны персанаж у коміксах) у звышкароткай спадніцы дэманструе неверагодную мудрасць і навуковы спрыт. Доктар Конар — у выкананні Рыса Іванса — яшчэ больш яскравы. Напалову чалавек, напалову Гадзіла з рэзкімі рухамі і паскудным характарам перасяляецца ў каналізацыю і прагне пераўтварыць людзей у звераяшчараў.
Глядзіце, калі хочаце прыклеіцца да ліпкіх нітачак.

**Андрэй Расінскі**







### Наш Грунвальд

**Ад 20 да 22 ліпеня на тэрыторыі Музейнага комплекса «Дудуткі»** пройдзе IV міжнародны фестываль сярэднявечнай культуры і музыкі «Наш Грунвальд».

Вы можаце ўбачыць рыцарскія турніры, спаборніцтвы лучнікаў, рок- і фолк-канцэрты, а таксама навучыцца стральбе з лука і арбалета, наведаць майстар-клас па гістарычным фехтаванні, паўдзельнічаць у шатландскіх гульбішчах…

# Новая мода — байдаркі

**Водныя падарожжы** па краіне.

У савецкія часы сотні беларусаў штогод выпраўляліся ў суседнія рэспублікі скараць імклівыя горныя рэкі Каўказа і Карпатаў. У нашай раўніннай краіне такога экстрыму не знойдзеш. Але ці патрэбная гэтая небяспека падарожнікам, якія паспелі аб’ездзіць усе самыя папулярныя экскурсійныя маршруты Беларусі і цяпер хочуць новых уражанняў? Для іх дастаткова размеранага падарожжа на байдарках па беларускіх рэках. Менавіта таго, што і прапануюць айчынныя турфірмы.

Маршрутаў пад 20 — Бярэзіна, Вілія, Дрыса, Ісλач, Нёман... Нашы рэкі сустракаюць турыстаў кожныя выходныя. Расклад падарожжаў можна знайсці на сайтах арганізатараў.

**Як арандаваць цеплаход**

Турыстычныя паслугі аказваюць і цеплаходы ў беларускіх партах. Іх дзесяць: Брэст, Пінск, Гомель, Мазыр, Рэчыца, Мікашэвічы, Гродна, Магілёў, Бабруйск і Віцебск. Цеплаход на ходу каштуе арандаваць 450-700 тысяч рублёў за гадзіну, а на стаянцы — 310-450 тысяч.

Адзіночным турыстам выгадней пакатацца на рэйсавых цеплаходах, якія злучаюць Гомель, Магілёў, Пінск і Лоеў з суседнімі вёскамі. Кошт праезду складае 7-22 тысяч рублёў.



Цеплаход «Пінск».

## Удзел у водным паходзе не патрабуе спецыяльнай падрыхтоўкі »

Як выглядае традыцыйны расклад трохдзённага тура? Звычайна падарожнікі выязджаюць з Мінска ў пятніцу пасля заканчэння працоўнага дня. Іх чакае вечар знаёмстваў на беразе ракі са зборам байдарак і начлег ў намётах. Субота прысвечана непасрэдна сплаву на байдарках з перапынкам на абед. Нарэшце, у нядзелю падарожжа па вадзе працягваецца да абеду, а ўвечары група вяртаецца назад у Мінск.

За гэтыя дні ўдаецца праплыць на байдарках 30-50 кіламетраў. Падчас большасці з падарожжаў прадугледжаны «гістарычныя» прыпынкі. Напрыклад, для Бярэзіны гэта Брылеўскае поле, дзе войска Напалеона страціла каля 20 тысяч жаўнераў, а Расійская імперыя — яшчэ 6 тысяч чалавек. А на Ісλачы можна наведаць рэшткі палаца Тышкевічаў XVII стагоддзя і пяцісотгадовы дуб.

Падарожжа каштуе $70-80 на чалавека. У гэты кошт уваходзіць пракат рыштунку і харчаванне на працягу падарожжа. Калі прыходзіць са сваёй байдаркай ці хаця б са спальнікам альбо намётам, некалькі даляраў можна ашчадзіць.

Папулярнасцю карыстаюцца і карпаратыўныя паходы. Дзе яшчэ, як не ў водным падарожжы, можна па-сапраўднаму ўліцца ў калектыў?

Ягор Марціновіч



Ісλач. Ад берага да берага — рукой падаць.



Паходная кухня падчас падарожжа.

Пра водныя паходы агенцтва «Кола падарожжаў» можна прачытаць на сайце http://bytur.by

Мінск, вул. Кульман, 1, літэр Ж 4/К, корп. 3, офіс 42

Тэлефоны 8-017-290-99-98, 8-029-690-99-79, 8-029-590-99-83

# У Гродна ідзе набор у беларускамоўны садок і дзве школы

**Дзіцячы садок №45**

Адрас: вул. Сухамбаева, 5.

Заявы прымаюцца ў Ленінскім аддзеле адукацыі па адрасе: вул. Савецкая, 14, каб. 253, тэлефон — 74-07-85.

В.а. начальніка аддзела адукацыі гарвыканкама: 72-04-83 (Алена Пахомава).

Прадстаўнік бацькоўскага камітэта: 8(029)889-18-53, 8(029)337-85-74 (Наталля Кісель).

**СШ №32 (Ленінскі раён)**

Адрас: Ліможа, 11.

41-31-92 (Баярчык Гелена Вацлаваўна).

Завуч пачатковай школы №32: 8 (029) 787-43-54 (Валянціна Багдановіч).

Ленінскі аддзел адукацыі: 72-10-65 (Аксана Сяргееўна).

Прадстаўнік бацькоўскага камітэта беларускіх класаў: 70-62-89, пасля 18.00 (Аксана Астроўская).

**СШ №34 (Кастрычніцкі раён)**

Завуч пачатковай школы №34: 56-25-46 (Алена Вітко).

Кастрычніцкі аддзел адукацыі: 52-05-66 (Аляксандра Уладзіміраўна).

Гродзенская абласная арганізацыя ТБМ: 8(029)943-58-09 (Аляксандр Крой), 8 (029)285-93-07 (Іван Буднік).

Музеі

## Якія беларускія музеі самыя папулярныя?

Больш за ўсё турыстаў прыехала ў **Брэсцкую крэпасць**.

Белстат апублікаваў дадзеныя пра наведвальнасць беларускіх музеяў у 2011. За год у 160 музеяў прыйшлі 5,3 мільёна наведнікаў. Гэтая лічба расце штогод. Напрыклад, тры гады таму ў музеях было на 25% менш наведнікаў, чым летась.

Якія музеі сталі самымі папулярнымі?

1. Брэсцкая крэпасць — 339 тысячы наведвальнікаў.
2. Гомельскі Палацава-паркавы ансамбль — 304 тысячы.
3. Полацкі музей-запаведнік — 243 тысячы.
4. Музей ВАВ — 219 тысяч.
5. Нясвіжскі палац — 210 тысяч.
6. Замак у Міры — 196 тысяч.
7. Брэсцкі абласны краязнаўчы музей — 187 тысяч.
8. Нацыянальны мастацкі музей — 183 тысячы.
9. Хатынь — 182 тысячы.
10. Віцебскі абласны краязнаўчы музей — 181 тысяча.

Па-за дзясяткай найлепшых застаўся Нацыянальны гістарычны музей, у які прыйшлі 174 тысячы чалавек.

Варта ўзгадаць і пра тыя музеі, у якія прыйшло найменш наведнікаў. Жабінкаўскі раённы музей за 2011 сабраў усяго 300 чалавек. У сярэднім менш чым па адным наведніку за дзень!

700 чалавек адзначыліся ў Астравецкім музеі. У Вальнецкім краязнаўчым музеі імя Івана Чэрскага пабывалі 1100 чалавек, а ў доме-музеі дзеда Талаша пад Петрыкавым — 1300 чалавек.

ЯМ

Аўто

## На слуцкай трасе змагаюцца з ліхачамі

На гэтай дарозе **шмат парушальнікаў** правілаў абгону.

На трасе Мінск — Мікашэвічы (Р23) ужо працуюць дзве камеры фотафіксацыі, хутка іх колькасць будзе павялічана да шасці. Камеры размешчаны на 94-м кіламетры трасы, за некалькі кіламетраў ад Слуцка, і на 124-м кіламетры — перад салігорскім колцам. «У аб’ектыве — ліхачы і парушальнікі правілаў абгону», — адзначылі ў ДАІ. Гэтыя парушэнні правілаў фіксуюцца, інфармацыя імгненна паступае ў адзіны цэнтр фіксацыі, а адтуль — у Слуцкае РУУС. Далей інфармацыя перадаецца экіпажам, якія працуюць на трасе, альбо супрацоўнікі ДАІ выязджаюць на трасу і чакаюць парушальніка. Увесь працэс ад фіксавання парушэння да затрымання вадзіцеля займае ўсяго некалькі хвілін.

У ДАІ таксама патлумачылі, што траса Мінск — Мікашэвічы абраная для ўстаноўкі фотакамер перш за ўсё з-за таго, што там ёсць праблемы менавіта з парушальнікамі правілаў абгону. Часта гэта прыводзіць да аварый з трагічным зыходам.

БелТА



PHOTO.BYMEDIA.NET

**У Мінску прайшоў Кубак свету па мастацкай гімнастыцы. У гэтым відзе спорту (ці мастацтва) маем добрыя шанцы на Алімпіядзе.**



ДАСЛАЎ ЧЫТАЧ АЛЕСЬ ЛЕМЯШОЎСКІ

**Вось такую карціну можна назіраць у Грэцыі, каля найвышэйшага горнага ланцуга краіны — міфічнага Алімпа, дзе цяпер нацыянальны парк. Беларускі трактар відавочна яшчэ служыць сваім грэчаскім гаспадарам. Хуткасныя трактары МТЗ-5 МС магутнасцю ў 48 к.с. пачалі збіраць у Мінску ў 1959. Гэты экзэмпляр, які няблага захаваўся пасля 50 гадоў эксплуатацыі, можа быць найлепшай рэкламай МТЗ.**



**Маладзечна ледзь не пайшло пад ваду. 12 ліпеня на горад абрынулася магутная залева.**



**Грэчка цвіце, Мінскі раён. Грэчка выспявае, нават калі яе пасеяць у чэрвені. Беларусы традыцыйна ядуць шмат кашаў. Гэта здаровая аснова і адметная рыса беларускага стылю харчавання. Грэчкавы цвет дае цёмны мёд, добры ад стомы, пры анеміях і вялікіх нагрузках.**

## Анекдоты

* * *

Чалавек, у якога няма акаўнту ў сацыяльных сетках, выклікае спачатку здзіўленне, потым шкадаванне і, у рэшце рэшт, зайздрасць.

* * *

Жыццё трэба пражыць так, каб пра гэта ведаў Google.

Але галоўнае, каб не даведаўся Youtube...

* * *

Выстава тавараў народнага злоўжывання.

* * *

У продаж паступілі перфаратары «Жаваранак» з наборам свярдзёлкаў.

* * *

— Як даведацца праўду з тэлеканалаў?

— Вельмі проста: калі афіцыйныя асобы гнеўна нешта абвяргаюць, значыць, гэтае «нешта» і ёсць праўда.

* * *

Пра арт. 328 КК РБ

Незаконныя з мэтай збыту вырабы, перапрацоўка, набыццё, захоўванне, перавозка або перасылка плюшавых мядзведзяў, набіваных рэчываў альбо іх мімішак — караецца пазбаўленнем волі на тэрмін ад пяці да васьмі гадоў з канфіскацыяй маёмасці або без канфіскацыі. Тыя ж дзеянні, учыненыя групай асоб ... і г.д. па поўнай ...

* * *

Парламенцкія выбары будуць самымі надзейнымі, а пабудаваная АЭС самай чэснай. Толькі не праблытайце.

* * *

«Славянскі базар» круцейшы за Алімпіяду. Тут без базара.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Крайск. Вілейскі павет.** Блізка па ўсёй крайскай воласці з'явілася мошка, которая з'ядае ярыну, найбольш гарох. Нашы сяляне кажуць: гэта саранча, але я ім казаў, што гэта не саранча, а так нейкае паганае стварэнне. Усе вельмі баяцца, каб часам не выела ўсёй ярыны.

**«НН». №27. 1912.**

Вялікі гром вакол гвалтоўнай змены рэдактараў літаратурных выданняў завершыўся малым дажджом. «Абноўленыя» перыёдыкі сваім духам і зместам вяртаюць нас у далёкія савецкія часы, калі інтэлігенцыя рагатала з карыкатурных ідэяў чучхе ў светлай памяці часопісе «Корея сегодня».

**«НН». №27. 2002.**

Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| шэф-рэдактар | Андрэй Дынько |
| намеснік галоўнага рэдактара | Зміцер Панкавец |
| галоўны рэдактар | Андрэй Генадзевіч Скурко |
| заснавальнік | Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы» |
| выдавец | Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы» |

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8100. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 17.07.2012.
Замова № 2816.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.

Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614

9 771819 161008 12027